PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 3 (2018) ГОД XL БЕЛАСТОК 15 СТУДЗЕНЯ 1995 г. ЦАНА 50 грошаў (5000 ст. зл.)



*Зімні пейзаж.* Фота Мікалая Зубрыцкага

## Не спалі ўсю ноч

Калі быў я яшчэ жэўжыкам, памятаецца мне, што ў Шчодры вечар ганяўся я з сябрукамі па ўсёй вёсцы, глездзячы дзе тут можна якую штучку зрабіць. Аднаму гаспадару знялі брамку і так спрытна яе схавалі, што той знайшоў яе толькі пасля месяца часу. А стаяла яна, можна сказаць, на вачах усяе вёскі. Мы заўважылі, што сусед таго гаспадара адрамантаваў свой плот, але старыя прaслы штахет, акуратна ўпарадкаваныя, стаялі ўсё пры самой вуліцы. Між тыя праслы старога плота засунулі мы брамку.

Сёння, калі чую расказ пра такія ці падобныя ім штучкі на Гагатуху, усё явіцца мне адной казкай. Вёска на вачах памірае, а з ёю і народная традыцыя. Сучасная моладзь, у пераважнай большасці, народжаная ў горадзе, а тыя кволыя рэшткі, якія выводзяцца з вёскі, так ці інакш, таксама звязаныя з горадам. Тут, сярод новага мяшчанства, паспяхова засвойваем яго пануруючу эстэтыку. Пайсці на канцэрт фольк-калектыву ў народных строях фабрычнай вытворчасці, выпусціць слязінку ўзрушанасці, выпіць чарку за нядзельным абедам ды, лічы, гэта і ёсць уся наша традыцыя. Што ж, бацькі нашы жадалі нам лягчэйшага жыцця. Тое, што жыццё на вёсцы гаротнае і абяссільваючае бачым сёння асабліва выразна. Але ці той пераход у горад зрабіў нас багацейшымі і шчаслівейшымі ў духоўным плане? Пытанне для асобнага роздуму. Напэўна, аднак, штораз большае значэнне для выхадца з вёскі, якому культура не завяршаецца на відэафільме, мае памяць пра традыцыю і абраднасць яго бацькоў.

Калі запытаў я свайго бацьку пра Гагатуху ў час ягонай маладосці, першымі яго словамі было: НЕ СПАЛІ ЎСЮ НОЧ. Вартавалі, каму тут што зрабіць, а адначасна, каб табе нічога не нарабілі. Збіраліся кампаніяй, ішлі, напрыклад, да дзяўчат, крышку там іх пашчупалі, а пазней заставаліся ўжо ў мужчынскай кампаніі. Сядалі, яшчэ ў раннюю гадзіну, на чарку. Твой хросны, — расказваў мне бацька, — устаў і выйшаў на нейкае паўгадзіны. Вярнуўшыся, сказаў, што звёў у адзін хлеў цяляты ад трох гаспадароў. Яны былі аднаго ўзросту і аднолькавай масці. Была ў нас ахвота яшчэ на адну чарку, але не было ўжо гарэлкі. А тут, якраз, падвінуўся нам прадавец крамы з суседняй вёскі.

— Хлопцы, я вам зараз прывязу.

Мы хутка зрабілі складчыну. Ён узяў грошы і пайшоў, а мы чакаем і чакаем. Няма. Пазней толькі выявілася, што ён замест прывезці нам чвэртку — пайшоў сабе спаць. Але мы яму не даравалі. Дабраліся ў яго вёску, адшукалі панадворак і глядзім, што тут можна вычвэрыць. Нарэшце знайшлі — за клуняй ляжаў пень адборнага дрэва, відаць гаспадар трымаў яго на сталярку.

— Не дамо рады, — хтосьці азваўся.

— Як не дамо, — выступіў найбольшы ў нашай кампаніі здаравяка, — пашукайце толькі драбіну і паддайце мне яго на плячо.

Хтосьці зараз прынёс драбіну, а той здаровы хлапец узяў на плячо пень і палез з ім у цемры на страху. Сёння цяжка ўжо ў гэта паверыць, але ён засадзіў яго ў дымнік. Мала таго, што не разваліў дымніка — нікога нават не пабудзіў!

Расказвалі нам пазней, закончыў мой бацька, што калі раніцай гаспадыні распалілі ў печы, уся вёска зышлася паглядзець на тое дрэва, што вырастала на метры два з дымніка. А дым сабе ўецца пружынай вакол яго... Гаспадар адразу хацеў быў дастаць яго адтуль, але не даў рады. Думаў, думаў, а нарэшце ўзяў пілу, залез на страху і зрэзаў бы дрэва ў лесе.

**Аляксандр Максімюк**

## Пасварыліся за грошы

28 снежня 1994 года жыхары Пяшчаннік назаўсёды развіталіся са сваім аднавяскоўцам, другой ахвярай трагічнага здарэння. Давялося і мне ўдзельнічаць у гэтым сумным мерапрыемстве.

— Вы гэтай спаленай хаты не шукайце, хадзеце лепш са мной на памінкі, — параіла мне жонка солтыса.

Праходзячы праз чыстыя, крутыя вулічкі, назіраю ціхае жыццё Пяшчаннік. Амаль усе жыхары яшчэ на могілках хаваюць нябожчыка. У доме, дзе здарылася няшчасце, і далей жыве бабка. Хата раздзелена сцяной на два памяшканні. Там, дзе ўспыхнуў пажар, неабходны рамонт. Паводле прэсы і радыё „дом згарэў датла”. Меў таксама згарэць адзін удзельнік здарэння. Памёр ён, праўда, але праз суткі ў бальніцы.

— У нас яшчэ ніхто не быў і не пытаўся пра гэта. Чаму так напісалі, не ведаем. Спачатку думалі, што можа пішуць пра іншыя Пяшчаннікі, — разважалі жанчыны. Якраз гатавалі сталы. Неўзабаве ж вернуцца хаўтурныя госці. Заставілі і мяне пакаштаваць смачныя стравы.

**— Водка ўсяму вінаватая!**

— пачалася цяжкая, чорная аповесць. — Цяпер то такі час стаў, што ўсе п'юць. Што там мужчынам здзіўляцца! Яны ж заўсёды выпівалі. Можа не так многа, як цяпер, але выпівалі. Дзе не глянеш, усе напітыя. Пенсіянеры, замест збіраць грошы ўнукам, толькі і чакаюць дня, калі лістаноша грошы прынясе.

— Бабы старыя падурэлі. Панапіваюцца ды вычвараюць са старымі мужчынамі такое, што аж гаварыць брыдка. На шчасце ў нас такіх не многа. У суседніх З. то аж 14 баб выпівае. Панарэзваюцца і б'юцца за хлопцаў маладых. То што тут здзіўляцца, што хлопцы пілі. Усе ж кавалеры. Той, што ў арышце сядзіць, то быў нават жанаты. Двое дзяцей нажыўся. Але жонка прагнала ад сябе. Вярнуўся Жэнік да братоў жыць. Памёршыя Янка і Коля халасцякамі ўсё хадзілі. Хаця гадоў пад пяцьдзесят ужо ім было.

Па сабе пакінулі яны добрыя ўспаміны. Таксама ў народзе існуе перакананне, што

**нельга дрэнна гаварыць пра памерлых.**

— Янэк браў ужо пенсію. Бывала, як рускія да нас прыязджалі, то ён панакупляе ўсім тром адзенне. Тры пары дрэсаў возьме, тры кашулі, усім трампкі, такі падзельны быў, — успамінала прысутная цётка.

— Як я калісьці зайшла да іх за „свім”, то Коля якраз абед варыў. Накарміў мяне, а як жа. Смакавала ўсім. Навaрыў бульбы, насмажыў „схабовых” і да таго бурачкі. Тыя бурачкі троху саланаватыя былі, але мужчыны, відаць, такія любяць, — дадала маладзіца.

— На што не глянуць, то зробяць. Залатыя рукі мелі. Янэк займаўся сталяркай, а Коля тынкаваць хадзіў. Усё людзям памагалі. Скажы, што ў цябе гной вывезці трэба, за дзень справяцца, — дакінула салтысова. Нават пра-

*Працяг на стар. 3*

# КОЗЫРЫ ГМІНЫ

У 1994 годзе ў Нараўчанскай гміне сяляне-аднаасобнікі гаспадарылі на 6 925 гектарах сельскагаспадарчых угоддзяў, у тым ліку на 3 190 гектарах ворнай зямлі. Усіх гаспадарак было 1 205, у тым ліку 219 — 0,5-2 гектаравых, 342 — у 2-5 гектараў, 187 — у 5-7 гектараў, 207 — у 7-10 гектараў, 155 — у 10-15 гектараў і 95 — звыш 15 гектараў. Каля 80% зямлі — гэта грунты V і VI класаў.

У гміне найбольшую колькасць ворнай зямлі займаюць збожжавыя культуры: жыта, авёс, пшаніца, ячмень, трыцікале (пшанжыта) і збожжавыя мяшанкі, а таксама прапашная культура — бульба. У 1994 годзе ўраджай жыта склаў 18 цэнтнераў з аднаго гектара, аўса — 16 ц/га, пшаніцы — 20,5 ц/га, збожжавых мяшанак — 18 ц/га ды бульбы — 150 ц/га. Ураджаі былі параўнальна невысокія з-за неспрыяльнага надвор'я — халодная вясна ды сухое ўсмажлівае лета. Апрача таго сяляне амаль што спынілі вапнаванне глебы ды падсяванне штучных угнаенняў. Рэдка дзе праводзіцца апырсквание пустазелля.

У гміне добра развіта гадоўля рагатай жывёлы. Яна цесна звязана з наяўнасцю зялёных угоддзяў і з раслінаводствам. Траваедная жывёла знаходзіць тут корм на натуральных выганах на працягу амаль цэлага сезона выпасаў, а сенажаці даюць 2/3 усіх кармоў, загатоўленых на зіму. Апошнюю частку кармоў складаюць зборы карматраў, зерневых і прапашных культур.

Гаспадары з Нараўкі, Альхоўкі, Масева, Семяноўкі, Тарнопаля ці Ляўкова, Ахрымоў і Капітаншчыны гадуюць перш за ўсё буйную рагатую жывёлу, паколькі маюць многа натуральных выганаў і сенажацяў. З агульнай колькасці буйной рагатай жывёлы малочныя каровы складаюць у сярэднім каля 70% пагалоўя, апошнюю частку — маладняк.

У гміне добра развіта свінагадоўля і авечкагадоўля. Нядрэнна развіта таксама птушкагадоўля. У вёсках, размешчаных каля рэк (Нараўка, Семяноўка, Ляўкова), разводзіцца вадаплаўная птушка, асабліва гусі. Аднак не мае яна вялікага эканамічнага значэння ў жыцці сялян.

Змяншаецца, а шкада, зацікаўленне пчалярствам. У мінулым яно складала асобную галіну гаспадаркі. Зліткі воску і мёду экспартавалі нават у краіны блізкага і далёкага замежжа.

**Янка Ляўкоўскі**

# Пасварыліся за грошы

*Працяг са стар. 1*

жываючая за сцяной дзядзіна кепскага слова сказаць не ўмела.

— Так пэўна ім было суджана. Бо ў гэты дзень, што пагарэлі, у іх паршука закалолі. У нас жа ўсе пад свежыну выпіваюць.

***

— Думалі, што калі Коля выжыве, усё расскажа. Казалі, што лягчэй ужо зрабілася, падужэў. Аж тут захварэў на запаленне лёгкіх і памёр у шпіталі. Жэніку таксама жыцця ўжо не будзе. Ад саміх успамінаў здурэць можна, — разважалі хаўтурныя госці.

Першай аб трагедыі даведалася пражываючая за сцяной цётка.

— Пад вечар пачалі сварыцца. Гарланілі ўсё галасней і галасней. Урэшце пачалі біцца. Я аднак не звяртала на гэта ўвагі. Прывыкла. Здаралася, што пілі пастаянна два тыдні і мне іх слухаць было трэба. Аднак тады душой пачула няшчасце.

Стала неяк дзіўна і страшна. Таксама сабака бяду знюхаў. Завыў. Выйшла я на панадворак і гляджу: стаіць нехта ў мроку. Пазнаць не пазнала, нямнога я ўжо бачу. А потым чую, што дым смярдзіць. Праз вокны пачаў выходзіць. То я хутчэй за дапамогай. Першыя прыбеглі пляменнікі іхнія. Спраўна пагасілі агонь. Абпаленых Янку і Колю вынеслі на панадворак. Збеглася таксама ўся вёска. А Жэніка як арыштавалі, то ключы ад хаты пры сабе меў. Нічога не гаварыў, не плакаў, — разказвала бабка.

***

На могілках у Каралёвым Мосце дзве свежыя магілы. Апусцела драўляная хатка. Стройна, пераможна стаяць толькі 50-гадовыя елкі ля вакна. Пасаджаны яны праўдападобна рукамі загінуўшых. Мелі свой лес і яго прадавалі... Гавораць у Пяшчаніках, што сварыліся за грошы.

**Ганна Кандрацюк**

**P.S.** Імёны герояў зменены.

# ЯК ФРАНЦУЗСКІЯ БУЛАЧКІ...

...разыходзіцца штогоду „Ніва" з календаром. Ужо ад паловы снежня не зачыняюцца дзверы рэдакцыі — розныя людзі на розных мовах, ад інтэлігентна-выгладжанай польскай, праз шурпатую польска-беларускую трасянку, а то і на чысцюсенькай беларускай пытаюцца пра навагодні нумар нашага тыднёвіка.

Не маюць спакою ў апошні тыдзень года і прадаўшчыцы ў кіёсках усходняй Беласточчыны. Штохвіліну да акенцаў схіляюцца пажылыя бабулькі і нясмела пытаюцца, ці ёсць ужо ў продажы беларускі каляндар „Нівы".

У гэтым годзе мне самому давялося запэўніваць верных чытачоў перад кіёскамі ў Орлі, Гайнаўцы і Нарве, што жаданая навагодняя „Ніва" паявіцца своечасова, а нават датэрмінова. Але не спадзяваўся я, што знойдуцца прадпрымальнікі, якія будуць рабіць бізнес на ніўскіх календарах. Надзвычай кемлівымі аказаліся некаторыя лістаношы. Загадзя пазапісвалі тых, хто хацеў атрымаць каляндар, а потым абавязкова і своечасова данеслі яго... па 10 тысяч злотых за паасобнік. Гэта, як разумею, своеасаблівы *signum temporis* — знак часоў капіталізму.

Хацелася б толькі, каб ахвота прапагандаваць „Ніву" не пакідала лістаношаў на працягу цэлага года.

**М. В.**

# ГЕНЕРАЛЬНАЯ АСАМБЛЕЯ БС

23 снежня 1994 г. адбылася Генеральная асамблея Беларускага саюза. Называецца так сход старшынь усіх арганізацый, якія належаць да Саюза.

Сход скліканы быў па ініцыятыве новага старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы. Старшыні прадставілі арганізацыйны і фінансавы стан паасобных арганізацый і іх планы на 1995 год. Выказаліся яны таксама пра стан беларускай нацыянальнай меншасці на Беласточчыне ў гэты момант.

Назначаны быў тэрмін чарговага з'езда Беларускага саюза на 1 лютага 1995 г.

**А.Л**

# Бліжэй кніжкі

**Публічная бібліятэка ў Семяноўцы** (Нараўчанская гміна) існуе больш дваццаці гадоў. Ад 1 красавіка 1977 года працуе тут бібліятэкаршай Аляксандра Бірыцкая.

Зараз 140 чытачоў мае да выбару 6 100 кніжак. Сто тамоў купілі ў 1994 годзе. Дарослыя ахвотна чытаюць бытавыя раманы, ваенныя, гістарычныя, а таксама аповесці пра любоў. Сярод дарослых найбольш чытаюць Галіна Аліхвер і Ірына Шыманюк. Пастаяннымі чытачамі сярод дзяцей з'яўляюцца: Павел Аліхвер, Кацярына Лукша і Агнешка Панфілюк.

**(яц)**

<u>З былога</u>

# ... А яго пакінулі

Старэйшыя памятаюць пасляваенныя абавязковыя пастаўкі сялянамі збожжа і мяса дзяржаве. Цяжкавата было з гэтым у такі час жыхарам вёсак: аддай „жонду" падатак, а да таго і гэтыя дзяржаўныя пастаўкі, і голым застанешся.

У адной вёсцы жыў адзінокі стары кавалер. Не завёў сям'і, бо, як казалі, „не ўсе ў яго былі дома". Пакуль жылі бацькі, было ў яго яшчэ па-божаму, але як памерлі, усё прапала. Ледзь сябе мог пракарміць, а што думаць пра дзяржаўныя абавязкі.

Меў гэты чалавек ікону „Тайная вячэра", больш нічога. Прыйшоў секвестратар і аж за галаву ўзяўся. Запісаў хоць ікону. Выйшаў, а гаспадар прабурчэў: „Думаеш, дурня знайшоў! О не, я табе дам ікону!" Захутаў святы абраз у прасціну і закапаў, а на яе месцы на сцяне павесіў партрэт Сталіна.

Прыйшоў той дзень, калі мелі заняць ягоную маёмасць. Гаспадар сеў на лаўку, чакае. Секвестратар увайшоў у хату.

— Дзе ікона? Яна ж тут была?!

— А чорт яе ведае, куды яны ўсе павалакліся! Як кожны дзень, сядзелі ўсе за тым доўгім сталом. Паснедалі, паабедалі, павячэралі і пайшлі ў п... А вось гэтага х... тут мне пакінулі.

Што ж было рабіць з прыдуркам? Яго ж і пакараць нельга, бо турма яго розуму не навучыць. У псіхушку таксама такога не прымуць, бо да людзей не чапляецца, не шкодзіць. Тады і пакінулі яго на месцы. Грунт забралі ў дзяржаўны фонд зямлі, а яму далі пару злотых, каб пражыў.

**Аўрора**

# Што ў 1995 годзе?

У 1995 годзе ў **Нараўчанскай гміне** шпаркімі тэмпамі будзе ісці пабудова школы ў Нараўцы. Улады гміны многа ўвагі будуць прысвячаць пабудове вясковых водаправодаў. Будзе закончана пабудова іх у Слабодцы і ў Масеве І, а таксама пачнецца пабудова водаправоднай лініі ў Лешукі ды ў Міхнаўку. У далейшым будзе працягвацца аднаўленне дарогі са Старога Ляўкова ў Лешукі ды пабудова гравейкі з Семяноўкі ў Пасекі. Пачнуць будаваць санітарную каналізацыю ў Нараўцы (тут дагэтуль пабудавалі амаль паўтара кіламетра падземных каналаў) ды ў Старым Ляўкове.

Вясною 1995 года будзе закончаны рамонт нараўчанскага стадыёна — спартыўнай пляцоўкі і лавачак.

**ЯСЕНЬ**

# НАВАГОДНІЯ ГУЛЬНІ

Ноччу з 31 снежня на 1 студзеня нават некалькігадовыя дзеткі сучасных мяшчан чакаюць дванаццатай гадзіны, каб пабачыць, як неба ўспыхае тысячамі каляровых феерверкаў, а гул петардаў абвяшчае пачатак чагосьці ў сапраўднасці зусім неакрэсленага. Сігнал да святкавання даў па І прграме тэлебачання прэзідэнт РП сваім прыгожым выступленнем. Прыгажосць прамовы Бацькі Народа заключаецца ў тым, што была яна вельмі кароткая. Калісь Герэк, напрыклад, зусім не шанаваў сваіх падданых і штогод плёў штосьці каля 20 хвілін. І так нікога гэтым не пераканаў. Таму Валэнса здаваўся вельмі разумна, бо гаварыў толькі дзве хвіліны. І зусім дастаткова.

Беларусы, якія цяпер апынуліся ў вялікай вёсцы, якая называецца Беласток, вітаюць Новы год таксама як жыхары Кельцаў, Ломжы ці Ванхоцка. Калі пасля дзесятай гадзіны вечара праязджаў я цераз Міхалоўскую і Заблудаўскую гміны, у большасці вёсак людзі ўжо спалі. Вядома, пенсіянерам нават не цікава было глядзець на нейкія дзіўныя танцы, якія амаль увесь вечар паказвалі па двух прграмах польскага тэлебачання. Таму зрэдку бліснэла з вокнаў святло тэлеэкранаў. У Заблудаве пачыналася ўжо іншая зона. Колькасць святочна апранутых і шпацыруючых па вуліцах нейкім не зусім простым крокам людзей сведчыла, што нешта тут адбывалася. Беласток, нягледзячы на дажджлівае надвор'е і сырэдзіну ночы, выглядаў так, як у нядаўні час раніцай перад першамайскімі дэманстрацыямі.

Чым бліжэй цэнтра горада, тым больш святочны настрой, галасней, весялей, ясней. Адчувалася нешта незвычайнае. Бразгаталі бутэлькі ў пластмасавых сумках. Сучасныя вакханаліі толькі што раскручваліся. Мужыкі, якія з'ехаліся ў Беласток з усходу і захаду Беласточчыны, далучыліся і тут да масавай, тэлевізарнай культуры. Г.зв. бізнесмены, мафіёзі і наменклатуршчыкі на месяц раней купілі сабе на гэту ноч месца ў рэстаранах. Каля „Крышталю" таксісты, нізка кланяючыся, адкрывалі дзверы сваіх „Мерседэсаў", бо гэты жэст праўдападобна быў улічаны ў кошт паслугі.

Да швагра ўдалося мне даехаць на паўгадзіны перад дванаццатай. Каля блокаў натоўп дзяцей. Амаль усе з запалкамі ў руках. Трэск выбухаў нейкіх дурных цацак мяшаўся са смехам жэўжыкаў. Ніхто іх не заганяў спаць, бо ў сапраўднасці і не было каму. Бацькі гулялі па-свойму. На ўсходах пах, як у сацыялістычным рэстаране трэцяй катэгорыі. Водгукі каля кожных дзвярэй сведчылі пра тое, што „люд баві се добжэ".

Так было амаль два тыдні таму назад. Перад намі аднак яшчэ адзін Новы год. Нібы той самы, але на 13 дзён маладшы. Вітаць яго будзем больш памяркоўна, без выстралаў, трошку ў канспірацыі. Кожнаму ж жыць трэба і навошта паказваць сваё „схізматычнае" веравызнанне. Як пасля дакажаш, што ты добры паляк?

Тым не менш будуць балі, танцы і спевы. У тэлебачанні магчыма што і нейкім словам успомняць пра этнаграфічную цікавінку паўночна-ўсходніх „крэсаў", а лакальнае радыё падрыхтуе спецыяльную вячэрнюю праграму. Але ці будзе каму зрабіць нейкія традыцыйныя фокусы на нашых вёсках — уцягнуць сані на пуню, браму завалачы ў поле...? Салому няма ўжо зусім каму растрасаць па вуліцы, бо ці бачыў хто яшчэ дзеўку, якая чакае на вясковага кавалера? Жыхарам вёскі — пенсіянерам — гэтыя гульні ўжо непатрэбныя, а іх дзеці і ўнукі Новы год ужо прывіталі, толькі што паводле іншай традыцыі.

**Васіль Кургановіч**

# Каўказ

Маё знаёмства з Каўказам пачалося даволі выпадкова, але стала яно адной з самых цікавых прыгодаў майго жыцця. У купэ цягніка Беласток — Варшава з'явіліся нейкія „чорныя". Пасажыры нават загаварылі, каб не пускаць іх у купэ, маўляў, не трэба нам цыганоў. Мой бацька заступіўся за „чорных", ячшэ паклаў на полкі вялікія чамаданы чужынцаў, бо „чорныя" былі каржакаватыя. Калі ўсеселі, бацька спытаўся: „Але вы не цыганы?" „Не, мы дагестанцы", — горда заявіў мужчына. На тое я даў яму пытанне, ад якога госць даслоўна аслупянеў: „А вы аварцы ці даргійцы?" Мужчына ўзняў рукі і ўсклікнуў: „Госпадзе, у Савецкім Саюзе ніхто пра нас не чуў, а тут хлопец ведае". Яны былі даргійцы.

У другой палове 70-х двойчы ездзілі мы з сям'ёю ў Дагестан да сяброў, з якімі пазнаёміліся тады ў цягніку. Наш гаспадар, Шарапудзін, быў чалавекам бывалым у свеце. Нягледзячы на свой ніштожны рост (недзе пад метр шэсцьдзесят) быў надзвычайна моцны. Мог узяць у зубы табурэт, на якім сядзеў чалавек з гармонікам. Музыка іграў, а Шарапудзін, развёўшы рукамі, танцаваў лезгінку. Нічога дзіўнага, што з такой сілай Шарапудзін выступаў у цырку. З ім аб'ездзіў усю Еўропу. Хаця ад атлетаў звычайна не чакаюць вялікага розуму, Шарапудзін аказаўся чалавекам не толькі інтэлігентным, але і начытаным. Яго пасіяй была гісторыя Дагестана. Колькі мы не ездзілі, Шарапудзін расказваў пра кожны камень пры дарозе. Завёў мяне да Расула Гамзатава, вялікага пісьменніка і завёз у Гуніб, аул-!крэпасць на высокай скале, дзе 20 гадоў абараняўся ад расейцаў імам Шаміль.

Шаміль... Гамзатаў расказаў, што калі быў маладым пісьменнікам, напісаў нешта дрэннае пра Шаміля, хаця яго бацька просам прасіў: „Не кранай ты Шаміля". Балючая, відаць, засталася ад гэтага рана ў сэрцы пісьменніка, калі ён, пажылы ўжо мужчына, расказваў пра гэта першы раз бачаным у жыцці чужынцам.

У Шарапудзіна Шаміль вісеў на самым пачэсным месцы. Была гэта нейкая нямецкая гравюра з надпісам: „Шаміль і яго байцы моляцца перад боем". Шарапудзін пабачыў гравюру ў вітрыне антыкварыята падчас гастроляў у Нямеччыне і не пашкадаваў грошай.

Шаміль быў аварцам, але асабліва зацята ваявалі на яго баку чачэнцы. Паў-станне Шаміля было толькі фрагментам стогадовай каўказскай вайны. Яшчэ ў 1785 г. чачэнскі правадыр Мансур-Ушурма разграміў пад Маздокам 30-тысячны расейскі корпус Бутурліна. Палонены пасля паранення пад Анапай, загінуў у 1794 г. у казематах Шлісельбурга, не ўраніўшы падчас допытаў ні слова.

Расейцы, здабываючы Паўночны Каўказ, прымянілі тактыку спаленай зямлі. Раўнялі з зямлёю аулы, рубалі пад корань лясы, каб недзе было схавацца абаронцам.

У 1859 г., калі палонены быў Шаміль, царскія ўлады рашылі дэпартаваць у Турцыю некалькі нацый. Амаль поўнасцю выселены былі чэркесы — каля паўтара мільёна людзей, у асноўным жанчын і дзяцей, бо мужчыны раней загінулі. Палова дэпартаваных памерла на турэцкім беразе ад голаду і эпідэмій. Сёння чэркесаў засталося на бацькаўшчыне каля 30 тысяч. На іхняй зямлі паўстала каля 100 казацкіх станіц.

Другая хваля дэпартацый прыйшла ў сталінскі час. Калі ў II сусветную вайну немцы падышлі да Грознага, некаторыя нацыі палічылі гэта добрай нагодай вызваліцца ад Расеі. Дагестанцы, якія засталіся на савецкім баку, расказвалі мне, што чачэнцы быццам бы называлі Гітлера Гайдарам і рыхтавалі яму залаты пасад. Пэўна ж больш тут легенды, як праўды. Нідзе не ўдалося мне прачытаць, што канкрэтна зрабілі чачэнцы або іншыя горцы ў той час. Нават у легендзе расказвалася толькі пра тое, што чакалі немцаў. Як там ні было, 23 лютага 1944 г. Сталін загадаў дэпартаваць у Сібір і Казахстан усіх чачэнцаў, інгушоў, карачаеўцаў і балкарцаў, разам каля мільёна чалавек. Толькі палова іх дажыла да амністыі, абвешчанай Хрушчовым.

Пасля вяртання дэпартаваных нацый усё быццам бы вярнулася на свае месца. Залечаны былі раны, выраслі новыя пакаленні. І вось прыйшоў час развалу савецкай імперыі. Чачня як адзіная аўтаномная рэспубліка Расейскай Федэрацыі выбрала самастойны шлях. Незалежнай чачэнскай дзяржавы ніхто ў свеце не прызнаў. Скончылася ўсё вайною маленькай Чачні з магутнай Расеяй.

Беларусу не зразумець чачэнца. Ёсць нават у беларускай мове слова „чачэніцца", якое абазначае „гардзіцца, паказваць сваю гордасць, выносліваць". Можна, напрыклад, сказаць: „Ён дужа чачэніцца", або наадварот: „Не чачэнься, выпі".

Гэтыя акрэсленні ўвайшлі ў беларускую мову, відаць, у часы паўстання Шаміля. Дый цяпер, на беларускі розум, чаго ж гэтыя чачэнцы так зачачэніліся? Іх нацыянальнаму лёсу нішто не пагражала. Можна было дагаварыцца з расейцамі і выгандляваць ад іх адносна вялікі, няхай сабе і не поўны, суверэнітэт. Да таго іхні прэзідэнт Джахар Дудаеў выглядае на пустазвона. Праз тры гады практычна нічога не зрабіў дзеля падрыхтоўкі да ўзброенай абароны бацькаўшчыны. Цяпер людзям даводзіцца купляць зброю на рынку.

Яшчэ цяжэй зразумець расейцаў. Украіну кінулі і Казахстан, Беларусь адкінулі, хаця беларускі прэзідэнт на каленях у Расею прасіўся, а вось Чачня дык ім неабходная?

Здаецца мне, што ўсё ж такі непатрэбная. Нейк не відаць паэтаў, якія трызнілі б па-лермантаўску:

*От Урала до Дуная*
*До большой реки*
*Колыхаясь и сверкая*
*Движутся полки.*

І так далей, і гэтаму падобнае, аж да радкоў:

*Их ведёт, грозя очами*
*Генерал седой.*

Палкі не рухаюцца, толькі паўзуць, а генералы адзін за другім адмаўляюцца выконваць загады.

На маю думку, расейцы нават узяўшы Грозны, Чачні сілай не ўтрымаюць. Не таму, што гэтай сілы не маюць, толькі таму, што не схочуць.

Стогадовая каўказская вайна каштавала Расеі паўтара мільёна забітых салдат. Афганістан пакінулі, страціўшы тысячы забітых, не прайграўшы ніводнай сур'ёзнай бітвы. Цяпер стаяць пад Грозным і талкуюць, страціўшы некалькі салдат.

Расейская імперыя трымалася на псіхіцы расейцаў. Стварылі яе, бо вельмі гэтага хацелі. Цяпер маюць яе досыць. Абрыдла ім спяваць:

*Прощай девки, прощай бабы,*
*Угоняют нас от вас*
*На те горы, на крутые,*
*На злосчастный, на Капказ.*

Так часта даводзілася расейцам развітвацца з бабамі, што расейская нацыя пачала выміраць. У тэхналогіі называецца гэта стомленасцю матэрыялу. Ляціць самалёт, ляціць і ні стуль, ні ссюль падае. „Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь", усе яго баяліся, а за ноч яго не стала. Рэспублікі свабодныя, хоць ты плач.

Расея не прападзе, але не ваяваць ужо расейцам, толькі жыць. Проста — жыць.

**Алег Латышонак**

# ЭЛІТАРНАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

Сапраўды вельмі прысмна можна правесці час, аглядаючы праграму беларускага тэлебачання. Ні Гогаль, ні Чэхаў, ні Мрожак нават не наблізіліся да такога ідэалу абсурднасці і гратэску, які можам кожны дзень пабачыць на менскім тэлеэкране. Для тэлегледачоў з-за мяжы ўзнікае, аднак, маленькая праблема ва ўспрыманні зместу пасобных пунктаў праграмы. А ўсё гэта з прычыны малой адукаванасці ў галіне мовазнаўства. Калі хтосьці ведае толькі беларускую мову, можа нават не пераключаць свайго апарата на Менск. У беларускім тэлебачанні такая мова ў чыстай форме не выступае. Калі хтосьці ведае толькі літаратурную рускую мову, таксама нічога не зразумее з таго, аб чым гавораць менскія інтэлектуалы ці палітыкі. Мешаніна расейскага слангу, беларускіх гаворак і імпартнай тэрміналогіі стварае ў праграме беларускага тэлебачання цудоўную неразбярыху.

Асаблівай пашанай кіраўніцтва беларускай Тэлерадыёкампаніі цешыцца культура і гаспадарка. Сапраўды, цікава глядзець як інжынеры і рабочыя, якіх паслалі на адпачынак з-за браку сыравіны, з аптымізмам выказваюцца пра сучаснасць і будучыню сваё фірмы, хваляць дзяржаўныя ўлады за разумную і разважную палітыку. Конікі з саломкі і народныя танцы ў выкананні калгасных калектываў безупынна ад часоў Машэрава з'яўляюцца сімвалам духоўных перажыванняў народа.

Апошнім часам шмат месца ў праграме тэлебачання адводзіцца дыскусіі пра маральнасць, правы чалавека, талерантнасць. Вось, напрыклад, 27 снежня мінулага года, у інфармацыйнай праграме „Панарама" выступілі дзве „кругланіцыя барышні" і нейкі „гаспадзін", які з выгляду нагадваў цара Мікалая І, заяўляючы на „общепонятном языке", што ў Беларусі парушаюцца правы чалавека і канстытуцыйныя прынцыпы роўнасці грамадзян таму(!), што ў шматлікіх школах навучанне вядзецца на беларускай мове. Рускамоўныя грамадзяне Рэспублікі Беларусь пратэстуюць тады супраць таго, што іх дзеці вымушаныя вучыцца „ненужного языка". Такое хамства і знявага беларускага народа ў г.зв. беларускім тэлебачанні прынцыпова застаюцца без ніякага каментарыя. Дарэчы, усе інфармацыйныя праграмы пачынаюцца з „дрындушкаў" і на гэтым самым канчаюцца. І так у сапраўднасці невядома, ці хтосьці такое тэлебачанне робіць свядома, каб прымусіць людзей пераключаць тэлевізары на Астанкіна, ці і там жывыя экспанаты з мінулай эпохі вырашаюць галоўныя напрамкі прапагандысцкай палітыкі.

У апошніх днях мінулага года вельмі папулярнай тэмай у Беларусі была справа выступлення на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутата Сяргея Антончыка. Гаварыў ён пра карупцыю ў акружэнні прэзідэнта Лукашэнкі. Тэма, магчыма, нікога асабліва не здзівіла б, каб спачатку не забаранілі паказаць выступленне Антончыка па тэлебачанні, а пасля друкаваць яго даклад у прэсе. Вядома, тое, што забаронена, становіцца вельмі пажаданым. Найбольш забаўнымі ў гэтай афёры былі тлумачэнні хлопцаў з прэзідэнцкай каманды, якія заяўлялі з тэлеэкрана аслупянеламу грамадству, што ў Беларусі існуе поўная свабода слова. Антончык, які пакарыстаўся метадалогіяй былога дэпутата Аляксандра Лукашэнкі, стаў такім чынам найбольш даверлівым палітыкам у дзяржаве. Яго рэферат надрукавала газета „Свабода" дзесьці за мяжой у друкарні імя Аляксандра Лукашэнкі(!). Палітычнае жыццё ў Беларусі робіцца вельмі цікавае. Тэлебачанне, аднак, астаецца элітарнае, гэта значыць для людзей з моцнымі нервамі.

**Яўген Міранові́ч**

# ГАНЬБА РАСЕІ

Уварванне расейскіх войск у маленькую каўказскую краіну, Чачню, выклікала абурэнне тых людзей, якія любяць мір і спакой ды шануюць незалежнасць кожнай краіны. Супраць нашэсця выступаюць людзі, якія маюць страх Божы, пашану для праўды і веры, працўнікі зла ў кожнай яго праяве. Ужо здавалася, што Расеяй правяць нарэшце мудрыя людзі; а тут вось што! Успрыманне Расеі як дэмакратычнай краіны з'яўляецца толькі ілюзіяй: гіганцкую гэту краіну хутчэй можна назваць Хаосам. Таксама было і пры Керанскім у 1917 годзе. Расея бедная, а нападае на краіну яшчэ бяднейшую: не дзіўна гэта? Няма тут аднак ніякага дзіву, калі ўлічыць, што расейскую вярхушку абселі каршуны ў мундзірах галодныя ад імперскага апетыту. Яны не могуць перанесці, каб нейкая там Чачня адарвалася ад Масквы. І хапіла ім бессаромнасці каб бамбіць Грозны і іншыя гарады і пакідаць папялішчы і трупы нявінных, у асноўным, людзей. Аднолькавы лёс і чачэнцаў, і рускіх, якія жылі мірна і згодна побач сябе; цяпер, так адны, як і другія, праклінаюць урад Ельцына. Цяжка будзе рускім закабаліць чачэнскі народ, які вельмі любіць свабоду і сваю мусульманскую веру, а ядром яго традыцыі з'яўляецца помста, калі нехта каго зняважыў; руская ж тут перабралі меру аж надта. Свет пратэстуе, але што з гэтага? І Злучаныя Штаты Амерыкі набралі ў рот вады. Мо каб у Чачню былі пракладзены нафтаправоды, як у Кувейт, тады і Захад узяўся б за „вызваленне" гэтай краіны. Амерыка вызваліла Кувейт, а дакладней кажучы, кувейцкую нафту, толькі для сябе, калі Гусейн паспрабаваў яе сабе заграбіць. І думаю, што калі б Беларусь, Украіна ці Грузія не праводзілі падвасальнай Маскве палітыкі, бомбы з расейскіх самалётаў падалі б і на Менск, і на Кіеў, і на Тбілісі... З Расеяй няма жартаў. Царскі ўрад вёў вайну супраць чачэнцаў аж 25 гадоў і героя гэтага каўказскага народа, Шаміля, высока ацаніў і на смерць не засудзіў, толькі паслаў на ссылку ў глыб Расеі. Кастуся Каліноўскага спаткаў іншы лёс; падумайце, як гэта разумець...

**Мікалай Панфілюк**

# Кар'еры

*(пачатак у папярэднім нумары)*

З колішняй сям'і майго тата паломнічаў у Кіеў яго бацька, а мой дзед, Амяльян Амяльянавіч Сакоўскі. (Канешне, ён тады не быў яшчэ дзедам, бо быў даволі маладым чалавекам. І тым больш не быў маім, бо мяне не было яшчэ на гэтым свеце і не хутка меў паявіцца на ім. І, думаю, добра сталася, што не паспяшаўся са сваім прыходам на гэты свет тады, бо ці ўдалося б зрабіць мне кар'еру ў царскай Расіі, невядома, а што памёр бы да гэтага часу, то напэўна. А жыццё ўсё ж такі цікавае і цяпер).

Дабіраўся дзед у Кіеў не пяшком, а поездам ужо. Потым часта ўспамінаў гэтае памомніцтва, і пераважна не духоўную, а цялесную асалоду, якую ў Кіеве атрымаў. Проста не мог нахваліцца манастырскай ежай мой дзед, так смачна і сыта яго ў манастырскай кухні кармілі.

Дзед мой быў добрым, заможным гаспадаром — гаспадаром на ўсю вёску. Любіў таксама смачна паесці, і не шкадаваў сабе і сямейнікам сваім. А і выпіць пры нагодзе не адказваўся. Калі ж так надоўга запомнілася яму манастырская кухня, трэба верыць, што і сапраўды была яна варта такой пахвалы. Гэта аднак пярэчыць нашаму ўяўленню аб манастыры і жыхарах яго, іх цялеснай сціпласці, ўстрыманасці. Дагаджаць жа свайму трыбуху смачным абжыраннем таксама немалым грэхам лічыцца. І з гэтым грэхам, думаю, напэўна мусілі і ўмелі там змагацца.

Значыць трэба думаць, што ў Кіеве мой дзед быў не толькі паломнікам, але і госцем. А з гэтага ў сваю чаргу вынікае, што і трапезнічаў там не як манах ці звычайны паломнік, а як дастойны госць.

Справа ў тым, што ў Кіева-Пячэрскай лаўры працаваў святаром у той час дзедавай жонкі, а маёй бабкі Еўдакіі, дзядзька. Сергіем яго называлі. Быў ён сынам Кліма Амельянюка з нашай вёскі. Другім яго сынам быў Васіль — бацька маёй бабкі і цесць дзеда Амяльяна. Гэта, відаць, бацюшка Сергій пастараўся так прыхарашыць паломніцтва свайму земляку і сваяку. Я ўдзячны яму за гэта.

Стаць святаром у такім слаўным і святым месцы сыну мужыка з далёкай і глухой падляшскай правінцыі, ці ж гэта не кар'ера, скажыце?!

А святароў, настаўнікаў, пісараў, вайскоўцаў і прадстаўнікоў іншых інтэлігенцкіх прафесій пачало выходзіць з нашых вёсак у той пасляэрэформенны час нямала. Гэта пачынаў быць параўнальна добры час.

Калі, напрыклад, пакаленне Кліма, ураджэнца яшчэ прыгону, было амаль зусім непісьменнае (толькі ён адзін на ўсю нашу вёску меў крыху адукацыі і таму быў кладаўшчыкам і ўпаўнаважаным у свайго пана), дык у яго сыноў і тым больш унукаў адукацыя не была ўжо чымсьці незвычайным.

Пад канец XIX ст. навука, асвета пачалі ў нас паволі, але пераканаўча развівацца. Была гэта ўжо асвета не для выбраных, але для мас. Пасля першапачатковых складанасцяў, звязаных у асноўным з адсутнасцю школьных будынкаў і падрыхтаваных педагагічных кадраў, ужо на пачатку XX ст. і на гэтай дзялянцы было зроблена нямала. Да часоў бежанства ў 1915 г. амаль у кожнай нашай вёсцы былі пабудаваны школьныя будынкі. Некаторыя з іх і дасюль яшчэ асірацела стаяць. Не толькі ў нашых гарадах, але і ў вёсках адкрываліся, апрача пачатковых школ, таксама і сярэднія школы, напрыклад, у нашай Трасцянцы. Былі ўжо гатовыя планы ў Гродзенскага губернскага школьнага інспектара будаваць і адкрываць сярэднія школы ў іншых нашых вёсках...

Вось дзе асноўная прычына таго, што паявілася ў нас толькі інтэлігенцыі, што так высока пачала цаніцца навука, пашана да кнігі. У гэтым сэнсе, бадай, найкарысней на ўсю Расію выглядала Гродзеншчына, а на ёй наша тэрыторыя...

Моцна крытыкуем цяпер гэтае школьніцтва, але ці маем рацыю? Ці так ужо моцна змянілася нашае сучаснае школьніцтва ад тых даўніх царскіх часоў? Я б не сказаў гэтага. Пасля звышстагадовых эксперыментаў яно зноў апынулася або хутка апынецца ў зыходным пункце. І перабудавалі мы яго якраз на тагачасны царскі лад.

Чым жа нашае сучаснае польскае школьніцтва не з'яўляецца касцельна-парафіяльным цяпер? Ці ж не вядучымі ў праграмна-выхаваўчай дзейнасці нашых школ з'яўляюцца, а калі яшчэ не, то напэўна хутка з'явяцца, рэлігія і хрысціянскія вартасці?

Тое ж самае і ў матэрыяльнай сферы. Ужо цяпер нашае школьніцтва без бацькоўскай фінансавай складчыны нармальна функцыянаваць не можа. Нашы гераічныя педагогі яшчэ сяк-так трымаюцца, але хутка і яны без бацькоўскай ссыпкі ўтрымацца не змогуць. Магчыма ўсё гэта будзе ўжо ўзаконена ў новай нашай канстытуцыі, бо штосьці доўга рыхтуюць яе.

Канешне, ніхто не прызнаецца, што за ўзор нашым эксперыментатарам паслужыла царскае школьніцтва, бо мы ж так любім быць арыгінальнымі і заходнімі...

Калі перамагла рэвалюцыя, у якой выніку наша тэрыторыя была далучана да Польшчы, свет гэтай інтэлігенцыі заваліўся. Яны страцілі не толькі свае ідэалы, маёмасць, але і працу. Часта прымушаны былі вяртацца ў свае вёскі, дзе ім пераважна ўжо месца не было, і зноў прывыкаць да цяжкай мужыцкай працы і долі. Так ужо і дажывалі сваё паламанае жыццё. Я яшчэ помню многіх такіх інтэлігентаў; яны многа карысней выглядалі сярод іншых сялян: больш дбалі пра свой знешні выгляд, былі больш культурнымі, гаварылі ў асноўным па-руску. І так у кожнай нашай вёсцы.

Лёс тых з іх, хто астаўся ў Савецкім Саюзе пасля рэвалюцыі, быў яшчэ горшы: калі не загінулі ад голаду, хваробы, то былі расстраляны або замучаны ў сталінскіх турмах...

Даволі цікава, па-мойму, выглядае супастаўленне нашых бежанцаў з расіянамі.

Калі сям'я майго дзеда, таго што так удала паломнічаў у Кіеў, трапіла бежанцамі на Дон у 1915 годзе, убачыла што ў матэрыяльным сэнсе жывуць там будзь здароў у параўнанні з нашымі, бо, зрэшты, і ўмовы мелі зусім іншыя. А вось з асветай яны ўступалі нашым. І не таму, што былі можа менш здольнымі ад нашых, а таму, што навука ў іх была ў меншай пашане, чымсьці ў нашых дзядоў і прадзедаў. Канешне, далёка не ўсе і ў нас рваліся да навукі, часам не рваліся нават тыя, якія без больших клопатаў маглі здабываць яе. Многія аднак хацелі і здабывалі.

Было чаму павучыцца казакам у нашых дзядоў-прадзедаў і ў некаторых гаспадарскіх справах. Сярод нашых землякоў многа было выдатных майстроў розных прафесій, якія выконвалі сваю работу дакладна, прыгожа, з вялікім густам, а там часта рабілася груба, без густу, з-пад сякеры, як кажуць.

Расказвалі мне нашы, што там нават свіней карміць як трэба не ўмелі.

У нас, напрыклад, свіней заўсёды дзялілі на кормных і надворных. Кожная з гэтых груп карысталася зусім іншым статусам. Нашы кормныя — гэта свінячая арыстакратыя, а надворныя — пралетарыят. Ежу кормных проста было немагчымым параўнаць з кормам надворных. А там такога падзелу не было. Усе іх свінні тварылі адну надворна-кормную групу, з адным статусам і адной стравай. Страва гэтая была добрая, бо залатога збожжа было ў іх мноства. (Па некалькі гадоў стаялі немалочаныя стагі. Зверху такі стог быў аж чорны ад старасці, але ў сярэдзіне збажына была здаровая. Падобна і мышы яе не елі, а вось чаму — не ведаю. Ці іх там не было, ці былі больш культурныя ад нашых).

Хадзілі іх свінні ў чарадзе і па двары. Калі трэба было, бралі такое свінчо і забівалі, адразу дзелячыся мясам з суседзямі. Перападала часам і нашым бежанцам. Потым тое самае рабіў сусед, за ім наступны і гэтак далей. Свежае мяса, падобна, не пераводзілася ў іх на стале. Аднак гэты спосаб прадукцыі свінога мяса нават на дарэвалюцыйныя часы быў ужо моцна ўстарэлы, неэканамічны.

Гэта нашыя людзі навучылі іх, што перад тым, як закалоць, трэба адлучыць ад статка, пасадзіць у цесную клетку і інтэнсіўна карміць якісьці час. Эфект хуткі, вялікі і бясспрэчны.

І „дюжэ” здзіўляліся ваяўнічыя казакі свінячай натуры пасля гэтага, не знаходзячы ні сэнсу, ні логікі ў свінячых паводзінах. Найвыразней людзі паступаюць з імі па-свінску: адрываюць ад кампаніі, а істоты гэта надзвычай кампанейскія, ад волі, прыроды, замыкаюць у цесныя і цёмныя клеткі, а яны, замест выбухнуць, абразіцца і калі не здохнуць, то хаця б змарнець на целе, наадварот, адплачваюць няўдзячнаму чалавеку хуткім прыростам смачных мясных кілаграмаў. Праўду кажучы і мяне здзіўляюць такія іх паводзіны.

Так наш народ пачаў памаленьку прыжывацца ў новых месцах. Гэты сімбіёз з мясцовым насельніцтвам часта даваў, як бачым, добрыя рэзультаты. У многіх месцах нашы бежанцы ў матэрыяльных адносінах пачалі лепей жыць, як жылі дома, хаця гэта быў цяжкі час для Расіі — яна вяла крывапралітную вайну.

Каб не рэвалюцыя, большасць нашага народа так і не вярнулася б дадому. Хаос, голад, эпідэміі, рэквізіцыі, расстрэлы, выкліканыя Кастрычніцкай рэвалюцыяй, гналі наш народ на радзіму. Настальгія таксама.

Мой тата часта паўтарае, што хаця там і лепей харчаваліся многія нашыя людзі, бо елі, напрыклад, толькі белы, пухкі хлеб, на які маглі дазволіць тутай толькі ў вялікія святы, але не раз чулася ад старэйшых людзей: „От каб паесці капусты са старым салам і чорным жытнім хлебам”.

У маёй мамы нарадзілася ў Расіі сястрычка, яна цяпер бабулька ўжо. Калі ў час вяртання дамоў пыталі яе: „Куды едзеш Таня?”, яна нязменна адказвала ўсім: „На лодіну!” Так наслухалася яна пра нязназую яшчэ ёй радзіму.

*(працяг будзе)*

**Васіль Сакоўскі**

# НОВАЯ ПАЭМА

„Перад вайною па загаду народнага камісара Л. Кагановіча за „сабатаж” была расстраляна вялікая група беларускіх чыгуначнікаў. Каб схаваць злачынства, іх целы скінулі каля вёскі Цівалі пад Мінскам у магільнік жывёлы, якая сканала ад эпідэмій. Такія месцы па санітарных правілах нельга раскопваць на працягу ста гадоў”, — піша Сяргей Законнікаў ва ўступе да адной з 16 частак сваёй новай паэмы *„Цівалі”*. Асэнсоўваючы гэту жудасную падзею і адчуваючы штораз мацнейшае нарастанне палітычнага зла ў краіне, паэт абвострана ўглядаецца ў сённяшні дзень.

З паэмы *„Цівалі”* друкуем частку пад загалоўкам „Статак”.

**Ян Чыквін**

*Сяргей Законнікаў*

## СТАТАК

(з паэмы *Цівалі*)

Моўчкі дарогаю, пыльнай, заклятай,
У невядомасць клыпае статак.

Клыпае статак з жаданнем адзіным —
„Дайце кармушку!” Аж сочыцца сліна.

Сліна сцякае ў пясок, што як прысак,
Цягнуць яе скамянелыя пысы.

Гены набытыя — хочацца помніць,
Помніць і помніць, нічога не помніць.

Розум і рукі — даўно на прыколе,
Сунецца статак на могільнік долі.

Дурнем памрэш, бо нічога не ўкраў ты,
Сунецца статак на могільнік праўды.

Нехта цікуе: „Якой жа ты масці?”
Сунецца статак на могільнік шчасця.

Нехта чужую апратку прымерыў,
Сунецца статак на могільнік веры.

Нехта па лагернай пайцы скуголіць,
Сунецца статак на могільнік волі.

Ценем злавесным — з Чарнобыля хмары,
Сунецца статак на могільнік мары.

Смерць — як збавенне, не хочацца лекаў,
Сунецца статак на могільнік веку.

Цішу парушыць слабое рыканне.
Зрэдку рыканне... А болей — маўчанне...

Пастыраў статку не трэба ніколі,
І пастухоў дастаткова жывёле.

А ў пастухоў замест пуг — аўтаматы,
Пад іх наглядам сунецца статак.

Хто адаб'ецца, за тым сочыць руля.
Хочацца волі? Услед плюне куляй.

Так і хадзіцьме па крузе да скону:
З зоны старое — у новую зону.

# Зорка
## Старонка для дзяцей

### Вершы Віктара Шведа

**Даўжэзная шыя**

Дзеці гулялі ў заапарку.
Звяроў тут безліч усялякіх.
Жырафу ўбачыўшы, Макарка
Сказаў са смехам: — Богу дзякуй

Што не прыйшоў на свет жырафай,
З даўжэзнаю страшэнна шыяй.
Такую, хоць улазь на шафу,
І за гадзіну не памысш.

**Аўтобусны заяц**

У школе хвастаецца Віця:
— Сёння ў аўтобусе вось гэтак
Паглядваў на мяне вадзіцель
Быццам я еду без білета.

А я глядзеў шафёра следам,
Сядзеў спакойна на сядзенні,
Як быццам бы не зайцам еду,
Толькі з білетам у кішэні.

**Лагічны адказ**

На ўроку гісторыі Ніну
Настаўнік запытаў:
— У бітве якой загінуў
Варненчык Уладзіслаў?

Услужлівы заўжды Фома
Падказкаю тут дапамог:
— У бітве апошняй, вядома,
Загінуць ён толькі мог.

## ЛІЧЫЛКА

Раз, два, тры,
снег на двары.
Раз, два, тры, чатыры, пяць,
санкі лёткія імчаць.
Потым шэсць,
і сем,
і восем,
на гару мы санкі возім.
Дзевяць, дзесяць, адзінаццаць,
добра з горкі пракатацца!

Ганна ў саначках ляціць,
навучылася лічыць
усе гурбы —
адзінаццаць,
ямка стрэчная —
дванаццаць.
Ці то плакаць,
ці смяяцца:
твар — у снег,
а санкі ўбок!
Зноў пачнём зімовы ўрок?

**А. Канапелька**



*Кветкі ў кветках.*

## Другакласнікі з Краснага Сяла

Анэтка Вашковяк і Пшэмак Трахімюк не толькі добрыя вучні, але і выдатныя дэкламатары. Прымалі яны ўдзел у конкурсе беларускай паэзіі, да якога рыхтавала іх настаўніца Ірэна Півовар. Цяпер беларускай мове вучыць іх Аліна Загон і спадзяецца на іх удзел у будучых дэкламатарскіх конкурсах.

**Тэкст і фота М. В.**




## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

Настаўніца скардзіцца бацьку Вовачкі:
— Ваш сын намаляваў на парце муху, і я адбіла аб яе руку.
— Гэта яшчэ што, — кажа бацька, — ён вось нядаўна кракадзіла ў ваннай намаляваў, дык я праз намаляваныя дзверы выскачыў.

* * *

Маленькі хлопчык з плачам збягае па прыступках.
— У чым справа, сынок? — пытаецца маці.
— Тата забіваў цвік і ўдарыў сабе малатком па пальцу.
— Ну, не бяда, — супакойвае яго маці. — Такі дарослы хлопец, як ты, не павінен плакаць па дробязях. Табе трэба было засмяяцца, вось і ўсё.
— Справа ў тым, што я засмяяўся.

* * *

— Доктар, прыязджайце хутчэй да нас, — звоніць малы.
— А хто ў вас хворы?
— Усе, акрамя мяне. Я сваволіў, і ў пакаранне яны мне не далі ўчора тых цудоўных грыбоў, якія татачка назбіраў у лесе.

* * *

Дамашняя работніца выпіла крыху віна і пайшла ўкладваць сваю маленькую дачку спаць.
— Мамачка, — сонна заўважыла дзяўчынка, — а я не ведала, што ты ўжываеш таткавы духі.

* * *

— Татачка, — кажа маленькая дзяўчынка, — наш сусед, які жыве насупраць, кожны дзень цалуе сваю жонку, як ідзе на работу. Чаму ты гэтага не робіш?
— Мілая мая птушачка, — адказвае бацька, — я ж зусім не ведаю гэтую жанчыну.

* * *

Трохгадовы Вілі ўзяў матчыну пудраніцу і пачаў пудрыцца, як гэта робіць маці. Да яго падышла сястра, адабрала пудраніцу і сказала:
— Пудрацца толькі жанчыны, а мужчыны павінны мыцца!

* * *

У заапарку перад клеткай са львом маленькі хлопчык пытаецца ў бацькі:
— Тата, калі раптам выбяжыць леў і з'есць цябе, мне на якім аўтобусе ехаць дамоў?

Падрыхтаваў
**Валерый Бабей**

## БАГАТЫ ВЕЧАР — ГОГОТУХА

У апошні дзень старога года спрадвеку адбываюцца гульні і варажбы. На Беласточчыне захаваўся багаты абрад народных святкаванняў, звязаных з гэтай нагодай. Варта памятаць і ведаць, як арыгінальна сустракалі Новы год нашы дзяды, бацькі, старэйшыя сябры. У „Багаты вечар" (на Падляшшы гэты дзень называюць „Гоготуха") гулялі ўсе — маладыя, малыя, старыя.

Дзеткі перш за ўсё зважалі, каб у гэты дзень не атрымаць лупцоўкі. У іншым выпадку магло б гэта паўтарацца ўвесь будучы год.

Дзяўчаты займаліся варажбой. Мэтай таемнай практыкі было прадказанне будучага мужа. Калі такая дзеўка хацела ведаць імя свайго „суджанага", выходзіла на вуліцу і пільнавала, хто першы надыдзе. Калі сустрэла Івана, значыць і муж будзе так называцца, а калі Ніну ці Кацярыну — нарачоны ў гэтым годзе не завітае. У першым выпадку варажбу трэба было пашырыць наступным чынам: увечары выйсці на панадворак і тройчы паўтараць імя „мужа" ды чакаць, калі сабака забрэша. З якога боку пачуецца брэх, адтуль Іванка прыедзе ў сваты.

Больш заўзятым дзеўкам рэкамендавалася больш складаная варажба. У шклянку наліць вады (найлепш свянцонай) і на верх палажыць дзве палачкі. Канструкцыя мела напамінаць раку і мост. А ўсё трэба было выканаць перад сном. Пасля вячэрняй малітвы шклянку з „мосцікам" належыла паставіць пад ложак. З таго моманту абавязвала безумоўнае маўчанне. Трэба было, аднак, з усёй магчымай сілай марыць пра будучага мужа і тады заўсёды сніўся той „суджаны".

Многія варажылі ў кампаніі. Старадаўняй практыкай з'яўляецца варажба з пеўнем. Кожная дзеўка зранку насіла ў кішэні пшаніцу. Вечарам, калі на небе паявіўся месяц, дзяўчаты сыпалі перад сабой пшаніцу і звужвалі кола, а ў сярэдзіну кідалі пеўня. Певень пачынаў збіраць зёрны перад выбранай дзяўчынай і абазначала гэта, што хутка яна выйдзе замуж.

На Падляшшы амаль усе вясковыя хлопцы ішлі „гоготаті". Самай бязгрэшнай і далікатнай праявай іх дзейнасці былі сцежкі-дарожкі. Пасыпвалі яны попелам, пяском або высцілалі саломай дарожкі, якія спалучалі закаханых. Часта аднак здараліся сцежкі да жанатых, якіх падазравалі ў ціхіх рамансах. Найбольш асалоды прыносіла хаванне брамы, асабліва тады, калі пільнаваў яе гаспадар. У спрыяльны момант палівалі парог вадой і завязвалі дзверы. Няцяжка ўявіць, што дзеялася, калі расхваляваны дзядзька кідаўся ратаваць сваю браму. А разахвочаная кавалерка прыдумвала яшчэ больш злосныя сюрпрызы. Здаралася, што закідалі сані на верх клуні або расцягалі воз па ўсёй вёсцы, затыкалі шклом коміны, пераносілі на вуліцу прыбіральні. Нават жывіну ў хляве мянялі. Усе гульні ўспрымаліся як традыцыя і злавацца за гэта не выпадала. Кожны памятаў сваю маладосць. Цешыліся толькі тыя, што ў „гагатуху" злавілі „жуліка" і пачаставалі дубінкай. На шчасце ў гэтую незвычайную ноч ніхто не ламаў касцей і такі „пачастунак" быў небалючы.

А жыхары вёскі мелі свежыя тэмы на доўгія зімовыя вечарыны.

**Г. К.**

# ЗБМ — некаторыя тайны

Звяз беларускай моладзі (ЗБМ) фармальна дзейнічае ад 12 студзеня 1992 г. Прапанова стварыць арганізацыю выйшла ад самой моладзі — сябры, з'яднаныя ідэяй, зразумелі, што разам змогуць зрабіць больш. Групы хлопцаў з Бельска, Гайнаўкі і Беластока супольна пачалі змагацца за беларускасць. Першай мэтай было гуртаваць моладзь з белліцэяў. Хутка, аднак, разбілі свае мары аб мур нацыянальнага нігілізму. Тады таксама дайшлі да вываду, што іх членамі будуць „самыя цвёрдыя з цвярозай думкай".



*Багдан Сіманенка — старшыня ЗБМ.* Фота аўтара

— Калі нехта вельмі хоча быць у Звязе, сам знойдзе да нас дарогу. Не будзем нікога заахвочваць, намаўляць, хадзіць па школах і рэкламаваць сваю арганізацыю, — заявіў Багдан Сіманенка, старшыня ЗБМу.

Спачатку дзейнічалі толькі хлопцы, пазней з'явіліся дзяўчаты. Стаўшы членамі ЗБМу нельга належыць да іншых арганізацый. Абавязвае таксама ўласны стыль адзення. Якраз і гэта найбольш кідаецца ў вочы пабочнаму гледачу. Звязаўцы апранаюцца на вайсковы манер, а чорную вопратку здобіць крыж Ярылы. (Пра крыж Ярылы чытайце побач артыкул А. Латышонка).

Арганізацыя мае свой гімн. Як сюжэт паслужыў верш А. Карпюка спалучаны з рэфрэнам В. Шалкевіча. Песня называецца „Крокам руш" або „Што гэта за песня".

— Галоўная ідэя нашай дзейнасці гэта падтрымка беларускасці. На практыцы абазначае гэта быць свядомым беларусам, у шырокім сэнсе. Многа рэчаў робім для сябе, унутрана. Арганізуем таксама мерапрыемствы: рэйды „Сцяна" і „Бардаўскую восень", — сказаў Багдан Сіманенка.

Старшыня растлумачыў таксама вельмі складанае пытанне: Як стаць членам ЗБМ?

— Паводле статута правы звычайнага члена можна набыць шляхам:

1) пісьмовай дэкларацыі, дзе падтрымоўвацца мэты і задачы Звязу,

2) паўгадовага стажу,

3) зацвярджэння членства Галоўнай радай ЗБМ.

На практыцы выглядае гэта яшчэ больш складана. Трэба прабыць гадавую стажыроўку. Тады відаць, ці чалавек надаецца ў нашыя рады. Мы не прымаем такіх, што толькі хацелі б насіць нашыя адзенні. У Звязе таксама не патрэбная публіка. Залежыць нам на моцных, цвёрдых людзях, — адзначыў старшыня .

Аднак, каб ведаць усе тайны ЗБМ, трэба быць яго членам. І на дадатак зацверджаным Галоўнай радай. Некаторыя мусяць спяшацца. У Звязе можна дзейнічаць толькі да 35 гадоў.

**Ганна Кандрацюк**



*ЗБМаўцы на Грабарцы.* Фота з архіва

# Ярылаў крыж

Ярылаў крыж (двухкрыж) паходзіць з язычніцкіх (паганскіх) часоў. Як усе крыжы, ён звязаны з культам Сонца. Сонечным бажаствам быў Ярыла, паганскі бог вясенняй урадлівасці. Святкаванні ў яго гонар называліся „ярылавіцай". Ярылавіцу святкавалі ў красавіку (на Юр'я), у маі—чэрвені (на Сёмуху, на русальны тыдзень, на Купалле). У старажытнасці на ярылавіцу адбываліся язычніцкія шлюбы, так званыя „ўмычкі", гэта значыць выкраданне жонак.

Слова Ярыла паходзіць ад кораня „яр", звязанага з вясенняй урадлівасцю (ярына — ярае збожжа). З другога боку корань „яр" звязаны таксама з гневам, раз'юшанасцю. Таму Ярыла быў таксама бажаствам дабрамужнасці (адвагі і славы ваяўніка).

Ярылу прадстаўлялі як маладога мужчыну ў белай вопратцы на белым кані. У правай руцэ трымаў кветку — букет з каласоў, у левай — людскі чэрап. Такім чынам адлюстроўвалася двайная натура бажаства.

Пасля прыняцця хрысціянства Ярылу атаясамлівалі са святым Юрыем. Святы Юрый быў патронам рыцарства. Атаясамлены з Ярылай, стаў святым, звязаным не толькі з рыцарствам, але і з вясенняй урадлівасцю. Аб вялікім паважанні ў беларусаў да Ярылы — Святога Юрыя сведчаць незлічоныя песні (напрыклад „Пажарам дуб'е гарэла...", „Разгуляўся Юр'еў конь...", абрады пахавання стралы, купальскія, русальныя ды розныя карагоды і гульні.

Са спалучэння выяваў Ярылы і святога Юрыя ўзнік беларускі герб Пагоня. Пагоня прадстаўляе рыцара, але не з дзідай, як святы Юрый, толькі з мячом. На чырвоным шчыце рыцара красуецца Ярылаў крыж.

Шчыт беларускага воя быў чырвоны ад сівых часоў, аб чым сведчыць песня Баяна аб смерці полацкага князя Ізяслава, які:

*Адняў славу ў свайго*
*Дзеда, у Усяслава*
*І улёгся нерухома*
*На траве крывавай*
*Пад чырвонымі сваімі*
*Роднымі шчытамі*
*Увесь іссечаны, ізбіты*
*Ворагаў мячамі.*

З той пары, як полацкі князь Віцень увёў Пагоню як свой герб, рыцар з Ярылавым крыжом па шчыце быў знакам абаронцаў Бацькаўшчыны.

У XX стагоддзі Ярылаў крыж пачаў існаваць самастойна ў беларускай нацыянальнай сімволіцы. Тым не менш разумеецца, што ён толькі частка, якая прадстаўляе ўсю Пагоню. Ярылаў крыж стаў улюбёным знакам беларускіх вайскоўцаў. Насілі яго жаўнеры Беларускай краёвай абароны ў час II сусветнай вайны. Цяпер Ярылаў крыж з'яўляецца знакам беларускіх ветэранаў (былых вайскоўцаў) у заходніх краінах, Беларускага згуртавання вайскоўцаў у Беларусі ды Звязу беларускай моладзі ў Польшчы.

**Алег Латышонак**

# Вялікая радасць за малыя грошы

Хлопцы з Гайнаўскага беларускага ліцэя рэдагуюць школьную газету. Самы апошні нумар з'явіўся перад святочнымі канікуламі, 23 снежня 1994 г. Часопіс не мае яшчэ назвы. У часе, калі паказаўся першы нумар, аўтары нават прадбачвалі конкурс на загаловак. Таксама прапанавалі рассакрэціць абрэвіятуру „Men", што з'яўляецца тымчасовай назвай. Зараз часопіс мае прыняць назву „Niezależna Gazetka Szkolna".

Пра ўдалую інвестыцыю хлопцаў з IV„A" класа сведчыць высокі тыраж, які вокамгненна разыходзіцца ў ліцэі. Чытаюць „Men-a" нават настаўнікі. У класе IV„A" сябры і сяброўкі „выдзіраюць" гэтую газетку сабе з рук.

„Не пытай — купляй", — гучыць пастаянна рэкламны лозунг, асабліва тады, калі яшчэ нехта сумняваецца. Папраўдзе, галоўнай прычынай ашаламляльнай папулярнасці часопіса ёсць змест 12-ці старонак. Здавалася б, што пішацца тут аб усім і нічым. Аднак існуюць тэматычныя абсягі — куточкі напр.: музычны, спартыўны, закаханых і г.д.

Для прыкладу: „Kącik koszykarski" — wcale nie sportowy, a o koszach damsko-męskich".

Пераважае абстракцыя і гумар. Адразу відаць, што хлопцы складаюць свае тэксты паводле сваёй канвенцыі. „Men" зусім не нагадвае школьных выданняў, кантраляваных настаўнікамі.

Хлопцы пішуць на польскай мове. Выказванні сваіх герояў часта прыводзяць у арыгінале напр.: „Забю тых собак, як нэ выграем", — запэўнівае герой спортперадачы, агульнавядомы ліцэіст Андрэй Хворась.

Газета мае яшчэ адну вельмі прывабную рысу. Каштуе толькі 3,5 тысячы.

„Men — jak sądzę —
duża radość
za małe pieniądze",

— заўважыў аднойчы прыхільнік вучнёўскай творчасці, настаўнік Яўген Вапа.

**Яна К. IV„A",**



*БАРЫС РУСКО*

**Боль жыцця**

Адступаю на крок
ад будзённасці
ў непрысутнасць хвіліны.
Думка патокам рэзбіць
сіметрыю лініі, формы,
адметнасць стыляў, напеваў,
вірлівасць фарбаў і слова.
Маці, дай цёплай стравы,
глыточак ласкі
і блаславенне на дарогу.
У ласкаўшым свеце
маё зачацце.
Там убачу вобраз
амаль праўдзівы
на хрыбце часу
марское зоркі,
магутным крыкам
да сябе гукну:
— Жыць варта!

**Пачатак**

Нічога не знайду ў загубе.
Уцякае ўсё,
нават цвердзь пад нагамі.
Свае кіпцюры нясуць да кармушкі.
Разумнік-месяц падказвае нешта,
а вочы ў нераце цемрадным вязнуць.
— Будзь жа сабою, — усё паўтараю, —
хоць падкалоднаю змяёю,
калодай хоць
у халодным ложы,
хвілінным ложам хоць...

З чагосьці пачынаецца пачатак.

**Трывога**

Роспач капае ямы,
Падсвядомасць
распальвае касцёр трывогі —
да памераў граху першароднага.
Ад бізуна ўцякае чалавек
у недатыкальнасць,
а вока сонца не заўважыць
ягоных слядоў,
а вуха ветру не пачуе
ягонага стогну,
а язык полымя
не зліжа ягонага цела.
У падзямеллі душы ўласнай
прыстанішча ў кашулі
непрамакальнай.

**Чалавек белы**

Ідзе чалавек белы
з белым тварам.
Ідзе чалавек белы
з жоўтым тварам.
Ідзе чалавек белы
з чорным тварам.
Ідзе чалавек вялікага сэрца
цёмнай ноччу.
І не бяззорнай. Не.
І не бязмесячнай. Не.
Ідзе ўласнай ноччу —
ад сябе да сябе.
Ідзе чалавек белы
ад іншага чалавека
цёмнай ноччу
і нясе крыж.
А каменне ляціць
у яго ноч,
і метка.
Ідзе чалавек белы
ў сіняках —
з ночы ў дзень заўтрашні,
а вочы чужыя колюць
з усіх бакоў.
Ідзе чалавек вялікага сэрца
ў сіняках,
з дня заўтрашняга —
ва ўласную ноч.

**Хвіліна**

Поўная радасць.
Не разумею гэтай хвіліны,
яе памераў
і яе складанасці,
і прысутнасці ўсяго
ўва мне,
і мяне ў кожным заломе
каляровых ценяў.
Бачу прастору бездакорную —
гармонію хвалюючых уражанняў.
Нічога не чую і не ведаю,
якімі пачуццямі паглынаю
нешта так далікатнае,
што, па-за хвілінай,
такое бясконца бляклае.



*Найбольш верныя чытачы „Нівы" пачынаюць чытаць тыднёвік з апошняй старонкі.* **Фота Ю. Аўсенніка**

## Студзеньскае паўстанне на Беласточчыне

У гэтым годзе спаўняецца 132 гады з дня Студзеньскага паўстання, якое было важным звяном у барацьбе за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне беларускага і польскага народаў. Як вядома, у 1861 годзе быў аб'яўлены царскі маніфест аб адмене прыгоннага права. Царская рэформа толькі часткова вызваліла сялян ад панскай залежнасці. Сяляне маглі выкупіць зямлю ад пана. Не маючы аднак грошай на выкуп зямлі, яны былі прымушаны далей працаваць на панскім полі і плаціць даніну.

Нічога дзіўнага, што ўзнікла думка падняць барацьбу супраць царызму і феадалізму. Для кіравання паўстаннем быў створаны камітэт. Кастусь Каліноўскі быў накіраваны на пост камісара на Гродзеншчыну. З Гродзеншчынай, а асабліва Беласточчынай, якая складала частку Гродзеншчыны, звязана значная частка жыцця і дзейнасці Каліноўскага.

К. Каліноўскі нарадзіўся ў Мастаўлянах, вучыўся ў Свіслачы, а пасля ва універсітэце ў Пецярбургу. Пасля заканчэння вучобы вяртаецца на Беласточчыну, дзе пачынае актыўную дзейнасць па падрыхтоўцы паўстання.

Перабраўшыся ў сялянскую вопратку, ён вандраваў з вёскі ў вёску, распаўсюджваў рэвалюцыйныя ідэі і рыхтаваў сялян да барацьбы. Хутка па ўсёй Гродзеншчыне ўзнікла сетка тайных арганізацый.

З мэтай пашырэння рэвалюцыйных ідэй, Каліноўскі, з дапамогай польскіх і рускіх рэвалюцыянераў, арганізаваў выдавецтва беларускай газеты-лістоўкі „Мужыцкая праўда". Гэтая першая беларуская газета шырока распаўсюджвалася далёка за межамі Гродзеншчыны, нягледзячы на тое, што за распаўсюджванне і чытанне пагражаў суд.

Дзякуючы дзейнасці Каліноўскага, на Гродзеншчыне была добра арганізавана канспірацыя, да якой былі прыцягнуты шырокія кругі сялян. Таму Гродзеншчына была найлепш падрыхтавана да паўстання.

У царскіх архівах захавалася шмат дакументаў, якія адлюстроўваюць удзел сялян у паўстанчым руху на Беласточчыне. З данясення жандара Лосева ад 7 лютага 1863 года вынікае, што ў вёсцы Войнаўцы селянін Казімір Станкевіч распаўсюджваў „Мужыцкую праўду" і падбухторваў сялян да паўстання. Жандарам не ўдалося яго злавіць.

Да паўстання заклікаў таксама селянін Мацвей Цюхна, які быў арыштаваны і зняволены ў астрозе ў Саколцы.

У дакладной штабс-афіцэра Штэйна князю Даўгарукаву ад 18 красавіка 1863 года ўпамінаецца, што ў Беластоцкім павеце з'явілася многа невялікіх паўстанчых атрадаў. Да іх далучаюцца мяшчане з Беластока і Заблудава, а таксама 18 сялян з вёскі Каменка, 12 — з вёскі Баброўка, 13 — са Скарупаў і 4 з Багноўкі.

Ужо 29 мая 1863 года той жа Штэйн піша, што ў Беластоцкім і суседніх паветах ходзяць атрады па 500—700 чалавек.

11 кастрычніка 1863 г. ваенна-палявы суд у Гродне прыгаварыў да расстрэлу селяніна з Жаўткоў Беластоцкага павета Дамініка Талінскага за спачуванне паўстанцам.

Дзякуючы дзейнасці Кастуся Каліноўскага і яго выдатных супрацоўнікаў, да якіх належалі Валеры Врублеўскі, Бранілаў Шварц, Вацлаў Серакоўскі, паўстанчы рух на Беласточчыне быў асабліва актыўны.

11 студзеня 1863 года паўстанцы пад камандаваннем Уладыслава Ціхорскага, разбіўшы роту салдат у Суражы, забралі многа зброі і боепрыпасаў. Пасля гэтага паўстанцы накіраваліся пад Сямяцічы. Атакай здабылі горад і адбілі контратакі генерала Манюкіна. Толькі атрымаўшы дапамогу, Манюкін здабыў Сямяцічы і спаліў горад.

У Бельскім павеце паўстанцы сілай у 150 чалавек разграмілі атрад рускага войска і занялі маёнтак Рудка. Атрад хутка ўзрастаў, а ўрад абвясціў Бельск і Саколку небяспечнай тэрыторыяй.

Значныя сілы паўстанцаў пад кіраўніцтвам Духінскага былі сканцэнтраваны каля Гарадка. Да барацьбы з ім ген. Манюкін мабілізаваў атрады войска з Беластока і з Саколкі. Жорсткі бой адбыўся каля маёнтка Пілатоўшчына.

Дрэнна ўзброеныя, не падрыхтаваныя да барацьбы паўстанцы, не маглі супрацьставіцца добра ўзброенаму царскаму войску. Нягледзячы на гэта, паўстанчы рух паступова пашыраўся.

Царскія ўлады люта распраўляліся не толькі з паўстанцамі, але і з падазронымі ў спачуванні паўстанцам. Па загаду начальніка Беластоцкага павета была спалена дашчэнту вёска Явароўка. Яе жыхары былі арыштаваны і дастаўлены ў Беласток. Маёмасць іх была канфіскавана і прададзена на ліцытацыі.

Каб ратаваць паўстанне, Каліноўскі прыехаў у Вільню і ўзяў на сябе кіраўніцтва паўстаннем. Ён навязаў сувязь з польскімі і рускімі рэвалюцыянерамі з мэтай паднццця сялян на Беларусі, у Польшчы і ў Расіі. Арышт і гераічная смерць Кастуся Каліноўскага былі апошняй хвілінай паўстання. Паўстанне было задушана.

Паўстанне пахіснула феадальныя асновы грамадства і прымусіла царызм пайсці на карысныя для сялян уступкі. У выніку яго быў прыспешаны выкуп сялянскай зямлі. Сяляне атрымалі права пасвіць быдла ў панскім лесе, збіраць галлё, грыбы і ягады. Паўстанне ўзбудзіла ў народзе дух бунту. Ён рос і мацнеў, пакуль не выліўся ў свабоду, дадзеную беларускаму народу рэвалюцыяй у 1917 годзе.

**Янка Целушэцкі**

*АЛЕСЬ ФІЛІПОВІЧ*

## Герой нашага часу

Быў каханым, быў братам і сынам,
а пайшоў — азірнуцца не змог —
па гасцінцы — у свет негасцінны,
бездарожжам — абы за парог,
схамянуўшыся, як ні вяртаўся —
усё радзіма была за спіной,
бы сляпы, падарожны бадзяўся
па падворку хаціны чужой.
„Ці ёсць хто жывы? Ці багаты,
гаспадар, я твой скарб не крану,
упусці ў сваю цесную хату —
хай хоць ногі крыху адпачнуць,
гаспадар!" — і расчынены насцеж
дзверы, клямкі на іх не чуваць,
а пад столлю — у аршын што багацця —
медзякі на масніцах звіняць
і чатыры куты, бы чатыры
нежывыя у крыжа рукі,
і, здаецца, скрозь морак, скрозь жвір бы
б'е чацвёртая ў дах той цяжкі...
Вось і золак, праз хвілю і сыдзе
з воч, бы з пашаў смуга, гэты змрок.
Стаў каханым, стаў братам і сынам
і заснуў пад гаворку сяброў...

# ЦІ ВАРТА БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ?

З праф. **ЯНАМ ЧЫКВІНЫМ**, старшынёю Беларускага Літаратурнага Аб'яднання „Белавежа" размаўляе Ежы Трачук.

*— Калі вы 17-гадовым ліцэістам дэбютавалі 30 чэрвеня 1957 года вершам „Кошка Броўка", па-беларуску на старонках „Нівы", украінскі рух на пaўночным Падляшы быў у пялёнках, а мяне не было яшчэ на сьвеце. Мусіць вы не сумняваліся тады ні ў сваім творчым, ні ў нацыянальным выбары. Віктар Швэд тры месяцы перад вамі апублікаваў свой першы верш нават так і тытулуючы „Я — беларус", тым паэтычным спосабам як-бы падкрэсьліваючы сваю нацыянальную годнасьць з прыналежнасьці да беларускага народа. Трыццаць сем гадоў пазьней вы застаеце як-бы іншы „краявід пасьля бітвы". Вось вы, беларускі паэт, размаўляеце са мною, сьвядомым украінцам і намесьнікам галоўнага рэдактара двумесячніка „Над Бугом і Нарвою", які выходзіць у вашым горадзе, Вельску Падляскім, хоць нашы родныя мясьціны ляжаць у простай лініі ў адлегласьці 25 км. (Дубічы Царкоўныя і Быстрэ). Але пра што ідзе гаворка? Вось тут на нашым супольным, вашым і маім, Падляшы стварылася вельмі-ж благая нацыянальная атмасфэра, якую не вагаюся назваць драмай нацыянальнага выбару. Гэты нацыянальны канфлікт запусьціў сваё карэньне нават у многіх сем'ях. Я сам выхоўваўся ў антыўкраінскім духу, што пазьней не змагло мне пашкодзіць зрабіць правільны выбар. Аднак, калі адна з першых маіх настаўніц, якую я і надалей паважаю, лічыць мяне ў размове са славутым вучоным чалавекам памешаным толькі таму, што я адчуў сябе ўкраінцам, а іншая мая даўняя настаўніца, калі я хацеў ёй падарыць экземпляр нашага часопіса, сказала, што яна як беларуска найахвотней укінула-б яго ў агонь, у той самы час, калі яе дачка, студэнтка Сельскагаспадарчай акадэміі ў Любліне, таксама пачулася ўкраінкай і піша да маці лісты па-ўкраінску, то насуперак пачатковай весялосьці з гэтага факту, я адчуў, што на нашым Падляшы сталася штосьці надта нядобрае і адначасова драматычнае, што мне прышлося спазнаць на сваёй скуры ўжо ў сьнежні 1983 года, калі ў выніку адпаведных заходаў я мусіў пакінуць працу ў рэдакцыі „Нівы". Тады я працаваў малодшым рэдактарам. Несумненна, пэўныя чалавечыя, асабістыя драмы, пры тым сямейныя, зьяўляюцца непазьбежнымі, з-за чаго смутку, сам калісьці моцна выстаўлены на пакуты ды і надалей пакутуючы з той самай прычыны. Аднак-жа, як вы, выдатны паэт і гуманіст, тое бачыце? Ці магчыма, каб выкрасталізоўваючаяся на нашых вачах нацыянальная сьвядомасьць не была падвергнута такім драмам? І што мы, гуманісты, павінны зрабіць, каб пазьбегчы іх альбо прынамсі палагодзіць іх вынікі?*

**Ян Чыквін.** Пытае мяне пан, што мы павінны зрабіць, каб пазьбегчы асабістых драмаў альбо прынамсі палагодзіць іх вынікі, зьвязаныя з выбарам нацыянальнасьці? Хоць выбары гэткія нешматлікія на Беласточчыне, усё-такі маюць свае якіясьці адмоўныя грамадзкія наступствы, то аднак-жа выбары тыя — як слушна пан заўважыў — зьяўляюцца выбарамі вельмі асабістымі, прыватнымі, а значыць і драмамі таксама амаль хатняга значэньня. Вядома, драмы гэта чалавечыя. Вынікаюць яны аднак з памылковай, каб не сказаць хворай, калькуляцыі халоднага, карысьлівага розуму.

У гэтай матэрыі я магу пану адно паспачуваць, як спачуваю чалавеку, які сам сябе пакалечыў у аўтамашыне, на сваё жаданьне сам яе і сябе разьбіваючы ўшчэнт. Гэта-ж праблема выключна пана шаноўнага. Не мая. Я ня мусіў і ня мушу рабіць, як пан гаворыць, „правільнага нацыянальнага выбару". Выбар той зьдзейсьнілі за мяне мае бацькі. А я ўсяго толькі бягу ў генетычна-пакаленевай эстафэце майго народу. І добра мне з гэтым. І ня маю сумніву, што менавіта і я бягу ў той эстафэце. І ў гэтым сваім бегу я ніколі ня меў „выхаваўчых" настрояў ні антыўкраінскіх, ні антыпольскіх, ні антыжыдоўскіх, ні іншых анты. Так, дрэнных меў пан настаўнікаў. Гэта відаць.

Выбар для нас ёсць магчымы, а якжа, аднак у адносінах да чагось зьнешняга, што ляжыць па-за нашай сутнасьцю. Выбраць, значыць, можна, спасярод многіх, партыю, канфесію, грамадзянства і што там яшчэ. Але ці дзіцё бацькоў эфіёпаў можа сабе хацець выбраць быць украінцам? Ці з бацькоў амэрыканцаў родзіцца гіндус або чэх? А ці спадар ці спадарыня портарыканцы могуць змайстраваць, нават з дапамогай усёй гміны ды мэдыкаў, хоць-бы аднаго румына?

Хто аднак зрабіў такі каркаломны нацыянальны „выбар", хто кінуў эстафэтную палачку і пабег не ў тым напрамку, які вызначае шлях бегу, няхай-жа ня лічыць на спачуваньне судзьдзяў, балельшчыкаў і асабліва бегуноў. Такога ўсе высьмеюць, высьвішчуць, палічаць вар'ятам. І правільна. Партачам у грамадзкім жыцьці няма месца. Яны мусяць уступіць месца спраўным бегунам. Самі прыгаворваюць сябе на гэта. І няма патрэбы літавацца над імі. Такое жыцьцё. Эстафэты бо без перапынку бягуць, усё далей ды далей. Да іншай бегчы не ўключыць іх ужо ніхто і ніколі.

Вось тут ёсьць тая памылка пана фальшывай, карысьлівай сьвядомасьці. І то не мне зьмяніўся „краявід пасьля бітвы"; але адно пану. І тая менавіта, „зьмена краявіду" адчуваецца панам як асабістая драма.

Але ўсё-такі чаму драма, калі зрабіў пан „правільны" нацыянальны выбар і стаўся „сьвядомым украінцам"? Можа гэта не драма, а звычайная камэдыя, трагіфарс?!

*— Са смуткам мушу сьцьвердзіць, што канфліктагенная ачагі сьвядома падаграваюцца некаторымі беларускімі пісьменнікамі і дзеячамі, асабліва-ж журналістамі. Цяжка сказаць на колькі ўсё гэта прадумана, а на колькі бяздумнае. Сакрат Яновіч, напрыклад, дасканала-ж усьведаміў сабе, што ўкраінскі рух, названы ім украінскай фрондай, будзе нарастаць, намаўляючы мяне яшчэ ў 1984 годзе пакінуць „Ніву", што я і зрабіў, а сам на старонках таго-ж тыднёвіка часта зьвяртаецца да адмысловых ганеньняў супраць падляскіх украінцаў. Чым гэта можна вытлумачыць? Ніхто-ж з цьвяроза думаючых падляскіх украінцаў ня мае намеру пераходзіць Нарву, каб там украінізаваць насельніцтва, якое наштодзень ужывае беларускіх гаворак?!*

**Як Чыквін.** Беларускіх журналістаў я ведаю досыць добра, як мне здаецца. Амаль ад сарака гадоў. Не было і няма ніякіх фактаў пацьвярджаючых іх чыста адмоўныя, зласьлівыя і неасэнсаваныя адносіны або дзеяньні супраць людзей іншай нацыі, толькі таму, што яны іншыя. І да ўкраінцаў таксама. У гэтым сэнсе беларускае журналісцкае ды літаратурнае асяродзьдзе ня ёсьць канфліктагеннае, як пан сказаў. Яно нічога сьвядома ці несьвядома не падагравае. Гэта-ж не ў нацыянальным характары беларусаў.

А пан зусім беспадстаўна атаясамлівае ўкраінцаў з „падляскімі ўкраінцамі". Кожная нацыя мае неад'емнае права на клеймаваньне сваіх здраднікаў-бесхрыбетнікаў. Беларускія стрэлы кпін і зьедлівых слоў не вылятаюць па-за межы сваёй нацыянальнасьці.

*— Як беларускі паэт і аніматар беларускага літаратурнага руху ў Польшчы вы многа зрабілі дзеля культурнага жыцьця польскіх беларусаў, а ўсё-такі ніколі не былі вы акцэптаваныя праўдзівымі, этнічнымі беларусамі да канца. Нядаўна вашу небеларускасьць папікнуў вам вядомы польскі пісьменнік Тадэўш Канвіцкі, які ў адным са сваіх інтэрв'ю сказаў, што „Яна Чыквіна, беларускага паэта, ён перамог-бы ў беларускіх генах". Сакрат Яновіч лічыць вас палякам. А мы ведаем, што Вы зьяўляецеся проста пішучым па-беларуску ўкраінцам. Ці-ж варта быць беларусам, калі радавітыя беларусы і так ад вас адмаўляюцца ды адносяцца да вас як да балячкі? Ці не наступіў час, каб і вы адчулі сябе ўкраінцам? І так-жа-ж застанецеся для іх чужым, хоць-бы няведама што для іх як паэт стварылі.*

**Ян Чыквін.** Калі пасьля ўсяго таго, што я сказаў, пан зноў пачынае плясьці тыя свае кашалі, то значыць, што нічога да пана не даходзіць. Усё, што зараз пан сказаў, гэта разбойніцкая недарэчнасьць, намеленая бязглуздзіца, не вартая нават шкарлупіны з-пад выедзенага яйца.

Я ўяўляю сабе, як подла адчувае сябе пан у тым сваім падзеньні. Вы прагна хацелі-б бачыць яшчэ кагосьці побач сябе падаючага ў пустэчу, у вакуум, у нацыянальны нігілізм. Гэта адтуль тая прапанова, каб я стаў з „выбару" ўкраінцам.

Не, пане намесьнік галоўнага рэдактара двумесячніка „Над Бугом і Нарвою", я пану сказаў, што ў маім выпадку гэта немагчыма. У адрозьненьні ад пана для мяне не існуе пытаньне „ці варта быць беларусам". Я нацыянальнасьцю не гандлюю.

Я сябрую з многімі людзьмі, сярод якіх ёсьць украінцы, расейцы, яўрэі, палякі, немцы, англічане, балгары, славянцы, гіндусы, в'етнамцы. Нешта ніхто з іх не дадумаўся перацягнуць мяне на свой бок, у сваю нацыянальнасьць. І запэўніваю пана, што ніколі нікому з іх не прыдзе гэта ў галаву. У тым нешта-ж ёсьць!

*(Абшырныя фрагменты інтэрв'ю, якое поўнасцю надрукаваў лондансксі „Голас часу" н-р 3 (1) ад студзеня-лютага 1995 г. Друкуецца з захаваннем правапісу арыгінала.)*

---

**А|Б|В|Г|Д|Е|Ж|З|І|К|Л|М|Н|О|П|Р|С|Т|У|Ф|Х|Ц|Ч|Ш|Э|Ю|Я**

БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАЕ ТАВАРЫСТВА

у ........Гданьску........

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

Азнаёміўшыся са статутам Беларускага грамадска-культурнага таварыства, прашу прыняць мяне ў яго члены.

Прозвішча ........Юрка Трачук........

Імя ................

Год нараджэння ........23. XI. 1957 г.........

Прафесія ........[illegible]........

Месца працы ........у войску........

Адрас пражывання ........Быстрая, 17-113 Гданьск........

Членскую складчыну ў ліку 12-ці злотых у год абавязваюся аплочваць рэгулярна.

Дата ........12. XII. 1981 г.........   Подпіс ........Ю. Трач[illegible]........

**У сувязі са сцверджаннем Юры Трачука, змешчаным у 47 нумары „Нівы" ад 20 лістапада 1994 г.: „членам БГКТ я ніколі ў жыцці не быў і слава Богу!", сябры з Гданьска даслалі нам ягоную дэкларацыю з просьбай прыняць яго ў рады гэтай арганізацыі і здымак, зроблены падчас сходу Гданьскага аддзела БГКТ, які адбыўся 7 лістапада 1981 г. Юры Трачук сядзіць на здымку першы справа.**



## ПАРНАСік
ЧЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### Хрыстос нарадзіўся

Хрыстос нарадзіўся,
Анёлы спявалі,
— Новы свет адкрыўся, —
Бога праслаўлялі.

У яслях у пячоры
Быў яго пакой.
Ноч і ціш наўкола,
Каб быў тут спакой.

Воінства нябеснае
Хрыста пільнавала.
— Дасць жыццё ўсім вечнае, —
Яго прасляўляла.

Пастухі прыйшлі
Хрысту пакланіцца
І радасць знайшлі
Ізноў нарадзіцца.

Анёл абвясціў ім:
— У пячору ідзіце,
У Хрысце адным
Ратунак найдзіце.

Пойдзем пакланіцца
Хрысту маленькому;
Перад Ім адкрыцца
Шчыраю душою.

Сэрцы аддамо
Як свае дары,
Будзем з Ім ано
Да вечнае пары.

### Лікуйце, людзі!

Лікуйце людзі на зямлі —
Хрыстос радзіўся!
У сэрцы нашыя прыбыў,
Для многіх свет адкрыўся.

Прыйшоў, каб цемру разагнаць
Што ад вякоў царыла,
Жывога Бога паказаць
Аб чым душа марыла.

Бог ласку паказаў Сваю:
Паслаў на зямлю Сына,
Каб ратаваць душу маю
Ад усіх грахоў, правінаў.

У Віфлееме ён радзіўся,
У бедных яслях у пячоры.
І люты Ірад разгубіўся —
Не ведаў, дзе якія дзверы.

Ад мудрацоў хацеў дазнацца
Дзе Ісус, яго пакої;
Каб з войскам ціха ўварвацца
І ўчыніць разбоі.

Хрысту ратунак даў Бог з неба,
Бо Ён зышоў, каб збавіць нас.
Але ўцякаць у Егіпет трэба
Каб адчапіўся сатана.

Пасля вярнуўся Ён дамоў,
Хаця не меў свайго кутка,
І веры Ён вучыў адной,
І гэта праўда, не мана.

Вучыў любві, усіх шанаваць,
Ад крывадушнасці цурацца,
У найгоршы момант не злаваць —
Малітвай ратавацца.

Хрыста навука і Ён сам
Жывуць далей, навечна.
Пакінуў Словы дарагія нам —
Напоўнім імі нашы сэрцы.

**Мікалай Панфілюк**

### Мінае дзень за днём

Прыходзіць Новы год.
Новы год да смерці,
Новы крок; усё старэ.
Прынясе нам сум і радасць.
Каму ў латарэі выйгрыш,
Каму толькі адны страты.
Каму роды, каму смерць.
Ідзе жыццё сваёй каляёй.
Так праходзіць дзень за днём.
І зноў Новы год прыходзіць...

**Аўрора**

## Хто нічога не паражыў, не верыць

Прачытаўшы ў „Ніве" (н-р 47 ад 20.11.1994 года) артыкул Васіля Петручука „Толькі пазайздросціць ілгуну", я падумала: хто нічога дрэннага ў жыцці не паражыў, нічому не верыць.

Аднойчы гаварылі мы пра адну жанчыну: „Яна нейкая дзіўная. Нікому не спачувае. Сама ніколі не хварэла то і нікому не верыць, што той можа быць хворы". Як суседка ляжала ў бальніцы, яна гаварыла: „Або яна хворая?! Працаваць не хоча! Паплакала перад дактарамі то і ўзялі ў шпіталь".

Ёсць многа людзей, якія мала каму спачуваюць і вераць. Толькі, як кажуць, хто ў нішто не верыць, выказвае вялікае ўбоства сваіх ведаў, а хто верыць ва ўсё, той паказвае сваю дурноту.

Колькі ж было падобных сітуацый да той з жыцця нашага паважанага Петручука.

Вось адзін хлопец таксама астаўся без маці. Бацька ажаніўся. Мачыха да сваіх дзяцей адносілася добра, а да яго — горш. Як яе сыны падраслі, то хлопец рана ўставаў і памагаў у гаспадарцы, а яны спалі. Мачыха называла яго „Пеўнем" і гаварыла: „Ёсць „Певень" і бацька — няхай працуюць". Калі давала есці, то сабе, сваім дзецям і мужу красіла, а падчарку давала поснае: — А што там, „Певень" можа і поснае з'есці, — гаварыла суседзям.

З той пары прайшло многа часу. „Певень" ажаніўся, збудаваў свой дом, купіў самаход, дзяцей пажаніў і „рыла" напас. Хто б сказаў, каб не ведаў яго жыцця з малога, што яму было так дрэнна.

Добрае жыццё змяняе чалавека. Хто мае арганізм схільны да поўнасці, то жыццё без нерваў і добрая яда паправяць выгляд умомант.

Ведаю пра адну жанчыну, якая важыла 150 кг. Калі пачала весці сябе згодна з парадамі лекара і ела толькі нізкакаларыйныя стравы, праз год пахудзела. Удалося ёй скінуць 80 кг. Прыйшоў Вялікдзень і наша знаёмая два тыдні нічога сабе не шкадавала: за гэты час паправілася яна на 10 кілаграмаў.

Ці сыты галоднаму спагадае? Не, — такі чалавек нават думкі не дапускае, што хтось можа быць галодны.

Ці хтось, хто ўсё жыццё жыў добра, верыць камусь, каму не шанцуе? Ён гаворыць, што той жыць не ўмее.

Толькі калі таму, каму заўсёды добра, раз у жыцці стане горш — тады бяда. Мала хто з такіх людзей стараецца знайсці нейкую развязку. Найчасцей такі чалавек стане алкаголікам, звар'яцее або пакончыць самагубствам.

Каму амаль заўсёды падаюць калоды пад ногі, той загартаваны ў бядзе і яму клопаты не страшныя. І ў гэтых людзей таксама бываюць розныя характары. Многія, якім удаецца „зрабіць кар'еру", вельмі крытычна і дрэнна адносяцца да тых, якія засталіся беднымі. Як кажуць, хутка забывае вол, як калісь цялём быў.

Ёсць і такія, што як пачнуць жыць лепш, ніколі не забываюць адкуль выйшлі. Спачуваюць тым, якім дрэнна, а нават стараюцца дапамагчы.

Што датычыць людзей, якія гавораць быццам разам са спадаром Петручуком хадзілі ў школу — грош ім цана. Можа яны зайздросцяць ягонай славе, а можа проста любяць ілгаць. Некаторым ад хлусці лягчэй.

Мне толькі не спадабалася, што адна жанчына публічна выказала сваю крыўдную заўвагу: магла сказаць яе тады, калі побач нікога чужога не было.

Найлепей гаварыць і пісаць праўду, але не ўсе гэта любяць. Часам трэба доўгіх гадоў, каб праўда выйшла наверх.

**Аўрора**

P.S. Спадару Васілю Петручуку жадаю сто гадоў жыцця, моцнага здароўя і плённай творчай працы, а таксама добрага месца на „Парнасе".

## Сойка

Сойка — прыгожая птушка велічыні голуба. Пер'е ў яе ржава-карычневае, хвост чорны, калі ляціць, паказвае сіне-бела-чорныя крылы. Сойка вельмі шпаркая і галосная. Яна ўмее пераймаць галасы іншых жывотных, найчасцей птушак, у суседстве якіх прабывае. Навесну самцы спяваюць ціхім голасам падобным то на мяўканне, то на скрыгат. На пачатку красавіка сойкі будуюць гнёзды ў густым яловым або сасновым маладняку. Самка адкладае 5—7 зелянаватых яечак, з якіх пасля 17 дзён выседжвання абодвума бацькамі вылупліваюцца маладыя. Прабываюць яны ў гняздзе 19—20 дзён, пасля пакідаюць яго і сядзяць на навакольных вятках. Вясною і летам сойкі кормяцца насякомымі, смаўжамі, малымі жабамі, яшчаркамі і яечкамі ды пісклянятамі іншых птушак. Восенню і зімою ядуць жалуды, арэхі, ягады і падлу. Верасень гэта асаблівы месяц у жыцці сойкі: лятаюць пад дубы і збіраюць жалуды, якія пераносяць на сваю тэрыторыю і закопваюць у мох і лясны подсціл. За адзін раз сойка ў змозе прынесці нават 9 жалудоў. У сезоне сойка хавае каля 2,5 тыс. порцый жалудоў, па 3—4 штукі кожная. Яны схаваны ў радыусе 300—400 метраў а часам 1—2 км ад сваіх дрэў. Гэтымі запасамі будуць карыстацца восенню, зімою і навесну. Не ўсімі, аднак, жалудамі сойкі скарыстаюцца: частку выкрадуць вавёркі, частку дзікі, а частку мышы. Ад 5 да 10 працэнтаў схаваных жалудоў астаюцца невыкрытымі і навесну з іх вырастаюць маладыя дубочкі. Сойкі маюць у нас мала ворагаў; гэта лясная куніца і каршун-галубнік, які хапае дарослыя птушкі падчас лёту.

**Андрэй Гаўрылюк**

## ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

### Адкуль узяліся словы: „грэчка", „персік", „фара" і „долар"?

Аказваецца, што геаграфічныя назвы маюць сваё другое жыццё ў назвах рэчаў матэрыяльнай культуры, у назвах экзатычных раслін, кветак, пладоў. Слова **грэчка** ўтварылася ад назвы краіны Грэцыя, дзе яна ўпершыню стала вядомая як культурная расліна. Слова **персік** — назва паўднёвай садавіны паявілася ў нашай мове пад уплывам Персіі, назвы краіны, дзе яна вядома са старажытнасці. Аўтамабільная **фара** займела сваю назву ад егіпецкага горада Фарас, каля якога быў збудаваны вядомы ў старажытнасці маяк. Фара, як і маяк, свеціцца далёка.

Гэтак і амерыканскі долар — грашовая адзінка нарадзілася ў горадзе Іаахімстале. Чаканілася вялікая срэбная манета, якую называлі, як і горад, іаахімстале... Манета адразу стала ходкай, а назва заставалася доўгай, славяне скарацілі яе да талер, амерыканцы ж утварылі сваю назву — долар. Цяпер горад нараджэння долара знаходзіцца ў Чэхіі і называецца Яхімаў.

**ЯСЕНЬ**

## ІКОНЫ

### Частка XVII

Прыводжу далейшыя выказванні сваёй маці аб вандроўцы ў Кісў на пераломе XIX і XX стагоддзя:

„Я яшчэ ні сказала, што ўсе мы ішлі босы, але неслі чаравікі за плячыма. Гэто для таго, каб у Пячэрску лаўру ні пайсці без абутку. А калі б катора з нас падбілася, то ўзялі з сабою пару пар пасталоў. Нам хтось кепско парадзіў, каб мы ішлі на Бярэсце і на Львоў. Ну, то мы так і пашлі. Бярэсце то вельмі вялікі горад. Я ніколі ў такім вялікім ні была. І цэрквы там вельмі хорошы. У адной то мы маліліся пару гадзін. І там нам бацюшка сказаў, што нам ні трэбо ісці на Львоў, бо гэто моцно ўбок, а кроме гэтаго Львоў знаходзіцца ні ў рускім але ў аўстрыяцкім гасударстві. Ну то мы пашлі так як радзіў нам гэты бацюшка. Там каля Бярэсці то людзі гаворат так як нашы падляшы і гэто наш народ. Усе яны праваслаўны. Але калі мы зашлі ужэ далеко за Бярэсце, то нам сказалі што там ужэ Украіна. Ой, там вельмі нідобры людзі! Яны, як толькі дазналіся што мы праваслаўны і ідзем у Пячэрскую лаўру, то нас лаялі, усё адно як сабакі. Гаварылі, што яны грэка-католікі і што яны ні прызнают маскоўскага патрыярха. Крычалі, што наша рэлігія гэто ні рэлігія, а толькі „собачя віра і царська схізма". А што гэто схізма значыт, то мы ні зналі. Вядомо толькі было, што гэто штось вельмі кепске. То тые людзі былі такіе нідобры, што на падворкі нас ні пускалі і вады навет ні давалі. Мы моцно спалохаліся і думалі, што яшчэ дзе-лень гэты украінцы нас затаўкут. Але калі мы пачалі падыходзіць да Кіева, то там ужэ жылі праваслаўны украінцы. І яны былі вельмі добры людзі. Запрашалі да хатаў, карміли нас і пускалі на начлег. А там яны то хлеба чорнаго ні едзят, толькі пірагі, бо ў іх кругом пшаніца расце. А там такія добры землі, што ў нас нідзе такіх німа. У іх такая зямля, што ні патрабуе гною. Калі даць у яе гною, то збожэ збуяе і будзе пустое. То ты знаеш, што яны робят? Яны гэты гной мяшают з глінаю і будуют з гэтаго хаты. Хаты ў іх белы-белы, бо пабелены белаю глінкаю. Ну, як я ўжэ сказала, людзі там вельмі добры і ні ў якім разе не параўнаеш іх з тымі, што жывут на Заходняй Украіні. Там народ вельмі ўрэдны. Аж цяжко паверыць, што гэто той самы народ.

Ну і калі мы ўжэ ішлі пачці месяц, то нарэшці дайшлі да Кіева. Божэ мой, Божэ, які гэто вялікі горад. Можэ з дзесяць разоў большы чым Бярэсце. І рэчка там Днепр вельмі вяліка і хароша. Мы былі вельмі здарожаны і пашлі на пачатку да рэчкі. Там пакупаліся, памылі бельё, бо якжэ ісці ў Пячэрскую лаўру брудными? А дзень быў вельмі цёплы і сонечны. Праз гэты Кіеў то мы можэ з паўдня ішлі. Такі гэто вялікі горад, а ішлі вядома босы, бо шкада было чаравікаў, а брук быў такі гарачы, што ў ногі паліло як агнём. А народ у гэтым Кіеве то гаварыў па-руску і хоць мы па-руску гаварылі слабо то маглі пра ўсё дапытацца. А калі нашы бабы ні панімалі якого рускаго слова, то яны пыталі мяне, што гэто значыт. Бо я, бачыш, хадзіла ў семяноўску школу і тое-сёе па-руску панімала і разбіралася.

Калі мы пыталі ў бацюшкі ў Бярэсці як нам ісці ў Кіеў, то гэты бацюшка ўсміхнуўся і сказаў „язык до Киева заведёт". Ну то яно напраўду так і сталасё. Ішлі мы, ішлі і ўрэшці дайшлі. І над тою рэчкаю, калі мы ужэ ў адным такім глухім месцы пакупаліся і памылі бельё то тады ўсе сталі на калені, згаварылі малітву і падзякавалі Богу за тое, што давеў нас да Кіева ў добрым здароўі. Бо чы ж гэто магло б быці такое, каб дурные бабы з Семяноўкі без ніякае помачы зайшлі аж так далеко? Не, такого без боскае помачы не магло быці."

**Алесь Барскі**




Дарагое Сэрцайка! Не ўяўляеш сабе, які прыгожы муж мне трапіўся. Не магу нават акрэсліць, чаму ён выбраў менавіта мяне. У асяроддзі маіх сябровак я не вылучалася ні асаблівай прыгажосцю, ні занадта тонкім станам. Калі я заўважыла, што ён адрознівае мяне сярод іншых дзяўчат, мне нават на хвіліну не паравярнулася ў галаве, быццам бы была я найпрыгажэйшая. Але я ведала, што хлопцы любяць быць у маёй кампаніі. Заўсёды было аб чым пагаварыць і з чаго пасмяяцца. Але наогул я была пераканана, што сустрэліся нашы флюіды — і ўсё. І таму я выйшла за яго замуж. Вядома, кахала і думала, што гэта на ўсё жыццё.

Даражэнькае! Ці ведаеш, што значыць мець прыгожага мужа? Калі кожная хоць крыху нечага вартая дзяўчына лічыла яго за свайго? Калі ў кампаніі я стала амаль непрысутная — нягледзячы на сваю эрудыцыю, бо ўсё круцілася вакол яго?.. Нават тыя жанчыны ці паненкі, якія прыходзілі да яго ў службовай справе, строілі яму вочкі, размаўлялі з ім так, быццам былі яго каханкамі.

Сэрцайка! Не ведаю, як гэта сталася, але я ператварылася ў дзіка зайздросную бабу. Але... прытваралася, што гэта мяне не ўзрушае. Ён жа і так — мой муж, а яны, тыя паненкі, відаць, не маюць каму ўсміхацца, дык усміхаюцца яму. А мо хочуць, каб у нечым ім дапамог...

А, зрэшты, думала я, калі захоча, дык і так мне здрадзіць. Магчымасцей у яго — колькі хочаш: камандзіроўкі, ненармаваны час працы, мноства знаёмых. Мо няхай лепш вышуміцца на маіх вачах, дык не будзе мець ахвоты на далейшыя залёты. І таму я ніколі не рабіла яму скандалаў, а ён, як мне здавалася, адчуваў сябе пры мне зусім свабодна, а не так, як іншыя мужы, што пры жонках сядзелі, як мыш пад мятлой, а за іх плячыма рабілі чорт ведае што.

Я падумала, што мае лаяльныя адносіны да мужа дапамогуць мне захаваць нашу сям'ю, тым больш, што было ў нас ужо двое дзетак. Ніколі не думала, што гэту сям'ю разбуру я сама. А чаму? Нервы не вытрымалі. Пакуль усё адбывалася ў сферы здагадак, мы маглі быць разам. Я лагічна разважала, што і так муж зробіць, што захоча, ці буду я яму нешта гаварыць, ці не. Але, праўду кажучы, сур'ёзна пра гэта не думала. У галаву мне не прыходзіла думка, што ён можа кахаць іншую, спаць з ёю.

А тут прыходзіць дзяўчына з жыватом і гаворыць мне, што гэта дзіця майго мужа. Што прыйшла таму, што ён бы ніколі не адважыўся паведаміць мне аб гэтым факце. Пытае, што я думаю на гэту тэму і ці дам майму мужу развод, бо яны і так будуць жыць разам.

Дарагое Сэрцайка, ты бадай не здзівішся, што ў сэрэдзіне ў мяне ўсё пахаладзела. Я выслухала яе, не гаворачы ні слова. Не крычала на яе, ні кінулася на дзяўчыну з кулакамі. Падзякавала ёй холадна і папрасіла, каб ужо ішла сваёй дарогай.

Калі вярнуўся муж, я без лішніх слоў „вызваліла" яго. Не білася за яго, не прасіла, каб адмовіўся ад тае дзяўчыны. Абрыд мне так, што не магла на яго глядзець. А ён сабраў дарожную сумку і, не развітваючыся, выйшаў.

Я чула, што муж затрымаўся на кватэры сябра. Што цяпер будзе, як ты думаеш?

Ася

Ася! Мо раскол наступіў бы значна раней, калі б ты не трактавала яго так вальготна. Лішняя свабода давяла яго да такой сітуацыі. Відаць, не было чым апраўдвацца, калі так хутка выйшаў з дому. Аднак жа, бадай, і не думае жыць з той дзяўчынай, калі пайшоў на кватэру да сябра. Многія мужчыны любяць брыкаць, але не пераносяць, калі бабы апавяшчаюць усяму свету пра іх салодкія таямніцы.

Ты не можаш лічыць, што разбіла вашу сям'ю, бо гэта зрабіў твой муж. Ты надалей была талерантная ў адносінах да яго, калі „вызваліла" яго ад сям'і.

А мо, каб была ты раней крыху менш паблажлівая, дык да гэтага б і не дайшло...

СЭРЦАЙКА




Астроне! Даўно я не пісаў табе — у апошні час нічога цікавага не снілася, але тыя сны, што я раней дасылаў у „Ніву", ты мне ўсе адгадаў добра.

І вось нарэшце ізноў прысніліся мне два цікавыя сны. Быццам я ў роднай вёсцы. Іду па вуліцы і бачу каля маёй хаты нейкі дым. Падыходжу бліжэй — а гэты дым выходзіць з дымніка. Далей гляджу: дым выходзіць з-пад дахоўкі і паказваецца агонь. Бяда, думаю, дом згарыць! Людзі сядзяць на лаўцы каля дзядзькі Мікалая. Я падыходжу і бачу, што ў яго хаце ўжо адно акно выгарэла. Гляну я тады ў бок маёй хаты: агню ўжо няма, усё прапала.

У другім сне мы з жонкай ішлі, узяўшыся за рукі, па квітнеючым лузе. Мы грэемся на сонейку, а ўсюды цвітуць кветкі ді лётаюць прыгожыя каляровыя матылькі. Даходзім да нейкага двара, а там многа людзей і гавораць яны не па-нашаму. Я хацеў уцякаць, але жонка кажа: „Ідзем, нічога нам не зробяць!" Уваходзім у дом, а там стаяць прыгожыя дзяўчаты, звязаныя вяроўкамі. Я іх ратую: разразаю вяроўкі і ўцякаю разам з імі. Жонка застаецца на гэтым двары. Астроне, што гэта можа абазначаць, калі жонка застаецца, а я пайшоў з іншымі?

А.Г.

А.Г.! Што датычыць першага сну, дык прадвяшчае ён хваробу, бадай ад прастуды. Вылечышся, аднак, бо ўжо агонь прапаў.

Наконт другога сну магу тваю жонку пацешыць, што ў жыцці можа быць якраз наадварот: ты яе не кінеш і не пойдзеш з іншымі, тым больш, што ты зрабіў добры ўчынак, бо перарэзаў вяроўкі, якімі былі звязаны дзяўчаты.

Але думкі ў цябе ў снах — о-го-го!

Астрон

## ВІРАВАНКА НА „К"



1. эстрадны танец з непрыстойнымі рухамі цела, 2. горы з Эльбрусам, 3. сухое пячэнне з дражджовага заквашанага цеста, 4. крыклівае дзіця, 5. калючая зброя, 6. дае малако. 7. каталіцкі святар, 8. пастка, 9. горад над Віслай, 10. член рэлігійнай секты ў Англіі і ЗША, 11. гара ў 2.

Сярод чытачоў, якія, на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 48 н-ра:**

**Гарызантальна:** парк, палац, аканне, ранг, чабан, аканом, Палеолаг, голас, канфлікт, засценак, слава, эканомія, Лаплас, Яніна, Адам, прадак, атака, альт.

**Вертыкальна:** малако, канапа, арабеска, кагал, пасаг, Антон, насмешка, канфесія, Газа, лось, ліса, Этна, Акропаль, лянота, ванька, лаўра, Элада, асака.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.




## Парады гаспадыням

*

Там, дзе ёсць цвіль (у шуфлядзе, шафе ці скрыні) трэба пакласці некалькі кавалачкаў камфоры; яна добра паглынае вільгаць.

*

Падлогу каля плінтусаў у пакоі, кладоўцы і калідоры пасыпце сушаным рамонкам, і мышы знікнуць з дому.

*

Калі мёд робіцца вельмі густы і цукрысты, яго трэба падагрэць да 60—80 градусаў і добра перамяшаць.

*

Фаянсавы посуд нельга мыць у вельмі гарачай вадзе, бо гарачая вада разбурае паліву. Яго трэба мыць у цёплай вадзе з мылам і спаласкаць у халоднай.

*

Яечныя жаўткі або бялкі нельга ўзбіваць у алюмініевым посудзе, а лепш браць фарфоравы, бо ад алюмінію бялкі цямнеюць, а жаўткі набываюць зеленаваты колер.

*

Плямы ад віна на баваўняным плацці або сурвэтцы можна выдаліць кіпячым малаком.

*

Падагрэтым драўняным пілавіннем (абавязкова сухім) або жытнім вотруб'ем добра чысціцца футравыя рэчы. Іх уціраюць у футра, а пасля рэч трэба добра выбіць з левага боку.

*

Шыбы можна працерці нават у самы моцны мароз, калі ў ваду наліць крыху спірту. Калі шыба пакрылася лёдам, растварыце ў паўлітры вады 2—3 лыжкі солі і гэтым растворам добра ачысціце шкло.

Ясень




Малюнкі Ю. Асенніка

# АБ'ЯВА

15 студзеня 1995 г. (нядзеля) у Бельскім доме культуры а гадзіне 17.00 адбудзецца канцэрт беларускай песні. Выступяць калектывы з Бельска-Падляшскага: „Журавінка" з Пачатковай школы н-р 3, вакальны дзявочы калектыў з Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча, „Васілёчкі" і „Маланка".

Прыбытак з канцэрта будзе поўнасцю адведзены ў „Фонд дапамогі Марыльцы".



"Niwa"
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

Рэдагуе калектыў:

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

Выдае:

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1995 r. upływa 20 lutego 1995 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał wynosi 6,50 zł (65 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1 zł (10 000 st. zł), a kwartalnie — 13 zł (130 000 st. zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# НІУКА

Знакаміты новы парашок!
Ужо ваш!
старанна апрацаваны у нашай лабараторыі склад
з дадаткам кірыліцы, гарантуе
заўсёды поспех у адмываньні
ўсякай нячыстасці!
Бязлітасны для бруду!
Купі сабе і падаруй сваім родным







PRALKA ETNICZNA!
Дасканалая для кожнай беластоцкай сям'і! Адмые ўвесь бруд!
ЗДАБУДЗЬЯЕ!

Раве ды стогне Буг шырокі,
Над Нарвай вецер завываець....

UKRAINSKIE PISMO PODLASIA
НАД БУГОМ І НАРВОЮ
← 4-э колісо

" Powiem krótko i totalnie: Jestem burmistrzem wszystkich mieszkańców miasta... Я бургамістр усіх жыхароў горада! "




паўвеку мы змагаемся за беларушчыну... і шведскі патоп, не кажучы пра аднаго шведа - гэтага не перакрэсліць...




: ПЯТРО КРУК - праваслаўным прэзідэнтам Польшчы!

100 тон мрамару, 13 дубовых дзвярэй,
2 копы яек, паўпушчы драўніцы, 5 лыжак
зацiркі... Не кожны ведае, але Ён
БУДУЕЦЦА →







Ясь Крыначка:
"Бамбэлькова даліна" 1994 г.




на апошнім з'езьдзе БАС назваўся Альтам
тонка спявае...




аўтар: Мікола Ваўранюк
кніга: "Па слядах аднаго міфа"




бомбачка бомбачцы няроўная.

© Юрка & Алік Ніва'94 ®